КНІГАРНЯ ПІСЬМЕННІКА

Алесь Камоцкі

# Не як так

*Выбранае*

Мінск, «Кнігазбор», 2018

УДК 821.161.3-1
ББК 84(4Беи)
К18

*Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў*
*«Кнігарня пісьменніка». Выпуск 103.*
*Заснаваная ў 2009 годзе*

**Камоцкі, А.**
К18 Не як так : выбранае / Алесь Камоцкі. — Мінск : Кнігазбор, 2018. — 252 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка» ; вып. 103).
ISBN 978-985-7180-78-3.

«Не як так» — зборнік лепшых вершаў вядомага паэта і барда Алеся Камоцкага з кніг «Спроба ісьці па расе» (1997), «Наспадзяванае» (2004), «48» (2007), «Глыбіня дажджу» (2007), «Навошта было мінулае» (2012), «Перасьпевы» (2012) і «Забірай маё лета» (2017). Завяршае кнігу нізка новых твораў.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 84(4Беи)**

**ISBN 978-985-7180-78-3**

# Пясняр
*(Замест прадмовы)*

А як жывецца...

*Алесю Камоцкаму*

*А багатая душа не скупая*
*Ні на шчырасць,*
*Ні на неспакой.*
*І ніхто ў яе не запытае:*
*Як жывецца табе самой?*

*А багатая душа маладая,*
*Бо старэць ёй няма калі.*
*А багатая душа галадае —*
*Не пякуць ёй хлеб на зямлі.*

*І багатая,*
*А па-жабрацку*
*Ходзіць з торбай пустою адна.*
*Каб было куды зорам сабрацца.*
*Толькі торба не мае дна...*

«Я не паспеў дастаць да неба...» — сумнавата заўважае паэт Алесь Камоцкі. Ён не звык да прыземленасці. Голас барда Алеся Камоцкага хораша пачувае сябе ў міжзор'і ўдзячных сэрцаў. Філосаф па адукацыі, тонкі лірык на паслугах у роднага слова. У век усеагульнай папсы яго песні вяртаюць душу да вытокаў, натуральна гучаць беларускаму вуху, не губляюцца ў сугуччы песняў суседзяў.

*Толькі песні могуць вечна жыць,*
*А людзей надоўга не хапае,*
*Ім не перайсці сляпой мяжы,*
*За якой так хораша спяваюць.*

Гэта не лозунг, гэта крэда Алеся Камоцкага, гэта практыка, гэта ўзнёслая паўсядзённасць глыбоканацыянальнага барда.

Як не зблытаеш спеў утрапёнца, так не зблытаеш і паэзію Алеся Камоцкага.

Цяжка аддаць перавагу ў яго песні мелодыі ці словам. Яшчэ і голас...

Ён піша і на свае тэксты (крыху прыніжана гучыць слова «тэксты» ў дадзеным выпадку), і на словы іншых паэтаў. Шмат і непаўторна перакладае. Я назваў бы гэта не перакладамі, а пераспевамі...

Здзіўляе прадуманасць зместу. Да прыкладу, паміж дзвюма песнямі пра каралеў — смешны вершаваны рэцэпт, як гатаваць верашчаку. Песні песнямі, а закусь сама сабой.

Натуральная сапраўднасць правяраецца на тым, як ён піша пра маці, бо мяноўна ад маці і жыццё, і паэзія. У Алеся:

*Жыццё — суцэльная нагода*
*Нам за яе аддзячыць маме.*

Не буду шмат прыводзіць цытат на майстэрства і непаўторнасць. Давялося б як не ўсю кнігу прывесці ў прыклад. А што тады чытачу рабіць? Не асмелюся красці ў яго радасць. Разбэрсаныя свае радкі закончу каротка:

*Бог даў і талент, і моц каму?*
*Вядома ж — Алесю Камоцкаму!*

*P. S.* Да неба прызнання і павагі паэт, філосаф і бард Алесь Камоцкі дастаць паспеў!

*Рыгор Барадулін*
*2004, 2012*

# Наспадзяванае

*Нам бы шукаць якіх шляхоў*
*Далей ад блуду,*
*А не чакаць сярод грахоў*
*Вялікіх цудаў.*

## *СПРОБА ІСЦІ ПА РАСЕ*

* * *

Час не чакае — мне ісці,
І позна пачынаць размову,
Ужо няма патрэбных словаў,
Ужо не могуць не пусціць.

* * *

Хоць думкі люты вецер
Не дае спарадчыць,
Хоць не знаходжу месца
Там, дзе жывеш ты,
І хоць жыццё бярэцца
Зрабіцца цяжкай працай,
Мне смешна.

* * *

Па выніках размовы
Пытанням не закрыцца.
Нашто тая будоўля,
Калі пасля сварыцца.

**Рэчаіснасць**

Я жыву, мусіць, неяк не так,
Разумею, напэўна, замала.
Рэчаіснасць казыча ў вушах,
А ў руках покуль што не бывала.

Рэчаіснасць —
не даць і не ўзяць,
Атрымаўшы —
яе не захочаш.
Я б пайшоў сваім шляхам назад.
Але надта ж не веру у вочы,
Хоць яны і растуць з галавы.

## Сталасць

Складанасці абставінаў жыцця
Неспадзявана ўжо не засмучаюць,
Ўжо болей нечакана
не здзіўляюць...
Жывём
не прадчуваннем адкрыцця,
А намаганнем выспацца начамі.

## Цэлы час
*(Імгненне)*

Незаўважны бег гадзін пад гарляк
Падстаўляе нож нямераны свой.
З пуцявіны мне не збочыць ніяк —
Людзі добрыя вядуць за сабой.

Размяркоўваюцца ў чэргах грахі,
Абгаворваюцца колькасць і кошт,
Касавурыцца ухіл на ухіл,
Не зважаецца на ўстылы мне нож.

* * *

Дапамажыце раскавацца —
Абрыдла ўжо камплексаваць.
У адпачынак прагну працы,
Працую — пухне галава.
Іду, а хочацца спыніцца.
Маўчу, а хочацца казаць.
Баюся ўласнае міліцыі,
Што йдзе мяне аберагаць.

## Эпізод

Казалі ўсё пра спадзяванні
І усміхаліся наўсцяж,
У вашым вытанчаным ржанні
Мне чуўся заклік да жыцця.

І я, пакуль не разабраўся,
З надзеяй клаўся і ўставаў,
Сабе хваробіну прыдбаў —
Адчуў, што пераспадзяваўся.

* * *

Я супраць узнятых рук,
Бо зведаў ад іх пакут.
Хто супраць узнятых рук?
Я першы падняў руку.

## Жаданні

Жаданні свае утаймоўваў,
Даводзіў да вонкавай сціпласці,
І вось не убачыш за словамі
Таго, што на волю ён выпусціў.

Брыдзе між людзей незаўважнае,
Але ад ягонай прысутнасці
У большасці цяжкае ўражанне,
Хоць большасць
не ведае сутнасці,
Якая шануецца знаўцамі
І мае традыцыі даўныя —
Аднекуль заўсёды з'яўляецца
І зноў пачынае з жаданняў.

## Зацятасць

Я сініцу шукаў, я сініцу шукаў,
Доўга ногі таптаў і стаміўся.
Завярнуў крыху ўбок,
і прысеў на пянёк,
І, задумаўшыся, пахіліўся.

Я сініцу шукаў, я сініцу шукаў,
Журавоў абмінаў, не зважаючы,
А пасля зразумеў,
што каб розум я меў,
То у пошук такі не ўдарыўся б.

## Холад

Як пачнецца пара лістапада,
Ўмацаваўшы кастрычніцкі сум,
Поўняць памяць
                         прызнанні і здрады,
І не хочацца быць аднаму.

Халадзеючым дыхае вечар,
Ўсе, што можна, на дровы крышу,
Ды няма паратунку ля печы,
Бо яна не сагрэе душу.

У чаканні званка ці сустрэчы
Ад самоты збавення няма.
Толькі раніцай скончыцца вечар,
Але заўтра яшчэ не зіма.

## Гісторыя

Было такога, што не ўспомніць,
Бо, калі ўсё гэта было,
Шматлікім дыхаць заняло,
І поўдзень абярнуўся ў поўнач.

* * *

Старога неба больш няма,
Зямлю міну узнікшым морам,
Бо йшчэ ад бацькі пераняў
Імкненне ў новыя прасторы.

Цяпер сярод былых людзей
Уяўна бачу непамёрлых,
І іх слядамі па вадзе
Мой шлях кіруецца праз мора.

Канец з пачаткам аб’яднаць —
Мая найпершая патрэба,
І неба новае спаткаць,
Бо ўжо няма старога неба.

## Рэха

Нам успаміны зразумець даюць,
Хто моцны,
хто слабы,
а хто разумны,
Хто ўвогуле
спачатку быў прыдуманы,
Каб сэрца хоць падманам
закрануць.
Мана і на бяду, і на карысць
Умее сатварыць і разбурыць —
Яна такая.
Памяць абдурыць?
Ёй нават гэта — праца нецяжкая.

* * *

Падыходзіць ціха ззаду.
На плячо руку кладзе...
Павярнуўся, бачу — здрада.
А за ёй у чарадзе
Пазнаю я вашы твары,
І усмешкі, і мігі.
Што ты, браце, вочы паліш?
Можа, ўстаў не з той нагі?

Сэнс здарэння ад змякчэння
Давядзе да мітусні —
Не ўяўляю заканчэння
Без напружанай хлусні.

* * *

Што сніцца катам па начах?
І ці знаёмы катам жах?
Якія маюць каты хобі?
І ці бываюць каты добрымі?

## Мана

Пачуццям,
                    што не патрабуюць слоў,
Мана больш за другое шкодзіць —
Яна паўсюль сабе знаходзіць
Шляхі...
                А тут — лацвей мане —
Хадзі ў адчыненыя дзверы,
Збірай вяршкі дабра з давер'я.
Пляваць на дробныя штуршкі!..
Якія водгукам і рэхам
Свой цень кідаюць на пацеху
Пакрыўджанасці і загане.
Адным ніяк, другім пагана,
І ўсе, хто браў удзел, паранены.

## Словы

Мы кажам словы пры сустрэчах,
На развітанне кажам словы...
Мы ува ўладзе слоў спрадвечных,
Няпраўда, што шукаем новых.

Трэба штосьці казаць цішыні,
Што навокал усмешку хавае.
Я збянтэжана рот адчыніў,
Памаўчаў і назад зачыняю.
Зачыніў, а на вусны мае
Асяроддзе адбіла усмешку.
Вочы вылупіў — слоў не стае,
А без іх...
Разумееце нешта?

Думку слова хавае,
Сэнс за думкай далёка.
Цяжка жыць, адчуваючы
Толькі словы навокал.

## Суадносіны

За і супраць —
суадносіны
сёння ў нас,
нам не да гвалту.
Цішыня —
і вочы скошаны.
То улева.
То у заўтра.
Толькі быццам замірыліся
за і супраць,
Але торгнула,
нешта з будучага
вынесла
І па сэрцах неспакоем
сцебанула.
Ажно енкнулі,
ды ўсмешкамі скрывіліся.
Пазбіралі неістотнае
І памножылі на мінусы,
Склалі ўсё — чакаем вынікаў.

## Пытанне

Мы ведаем, дзе дрэнна
З таго, што перажылі,
Але ж чаму нязменна
Зноў на памылкі хіліць?

## Эміграцыя

Дзе ён, дзе ён, той горад,
Пра які вы тут нам спявалі?
Побач дзе?
                    Ці за морам?
Мы паўсюдна шукаем.
З думкай непамутнёнай,
З сонцам у кожнай шыбе.

Раны незагаёныя
Змушаюць на гэты выбар.
Мы выбіраем горад.
Не ведаючы геаграфій.
Не ўлічваючы гісторый.
Нам толькі б туды патрапіць.

* * *

Проста жыць паміж лужын і сцюж
І не поўніць ідэямі вецер,
Як і ўчора, сягоння хачу.
Але, кажуць, і сёння не свеціць.

* * *

Старая плошча. Дрэвы. Брук.
Дамы абапал з мокрай цэглы.
З аднога боку процьма мух.
Смярдзіць карболкай процілеглы.
Людзей заўсёды тут няшмат,
Ды й тое, з большасці, вар’яты,
Пасярод плошчы ёсць тэатар,
І уваход туды бясплатны.
Мне там няма чаго рабіць —
Нашто мне іхныя прэм’еры.
Мяне цікавіць дабрабыт
На справе, а не на паперы.
Мяне не вабіць балбатня,
Я веру толькі у наяўнасць.
Мне есці хочацца штодня,
А тут — даюць чытаць аб’явы.
Што за жыццё, калі спектакль
На лепшым месцы, сярод плошчы?
Не абысці яго ніяк.
Глядзі і усё.
А як не хочаш —
Давай дамоў і адпачні
Ці пакрыўдуй крыху на аўтара.
Ты выйшаў, бразнуўшы дзвярмі,
Але ж ізноў тут будзеш заўтра.

* * *

Горад мой, вораг мой,
Адпусці мяне дамоў,
Я у нетрах тваіх вуліц
Час губляю.
Новы дзень загудзеў
Перапевамі надзей.
Да сябе няўмольна
Туліць, прыціскае.

* * *

Хто хоць нічога не знайшоў,
Але шукаў і спадзяваўся,
Хаця да мэты не дайшоў,
Але й на месцы не застаўся.

*ТАБУН*

*Пяты дзень з тэлевізарам п’ю,*
*І калі яму будзе ўжо досыць?*
*Ён паказвае мне ўсю зямлю*
*І нічога за гэта не просіць.*

## Спадзяванне на зіму

Штодзённыя змены надвор’я
На стому адпітым мазгам.
Якое тут шчасце ці гора,
Адно толькі ёсць, што туга...

Спакуса ўжо не спакуса,
Нязнанага быццам няма.
Улетку мацней землятрусы,
Дык, значыцца, трэба зіма.

## Акалічнасць

Снег не нагадаў мне пясок,
Як я ні выкручваў ваччо,
Дотыкі да цёплых панчох
Зразумець далі пра жыццё.

Ураджайны снег сёння лёг.
І, нібыта ў жудасным сне,
Не растаў ад цёплых панчох.
Гэта і здзівіла мяне.

## Дым

Я ўчора прыдумаў дым,
Што ціха над возерам плыў.
Ён быў там, дзе я казаў,
І плыў увесь час назад.

Былыя дымы ў разлік
Не браў ён, мой новы, злы,
Смяяўся, як я вучыў,
І плыў па вадзе, і плыў...

А іншых, другіх дымоў
Ён гнаў ад людзей дамоў,
Ідзіце, — казаў ён, —
Я
Тут буду агортваць шлях.

## Конь

Я зноў запіў ад адзіноты,
Ад халадэчы на двары.
Прыходзіць хтось.
Пытаю: «Хто ты?»
А ён не хоча гаварыць.

А ён маўчыць, і бессэнсоўна
Чакаць ягонага адказу.
Бо гэта конь, ён не шматслоўны
І ўсё наглейшы з кожным разам.

## Раніца святочнага дня

Зранку на белага каня,
Вочы прадраўшы,
                                        але не пад’еўшы,
Сеў я,
            і хеўрачка мая
                                          села таксама,
                                                                  але я ўсё ж першы.
Скок-паскок,
                              як капыты абцасы.
Чый гэта крок?
                                  Аж гэта мой уласны.
Ніз ці верх?
                         Нікому з нас не ўцяміць.
Быццам звер, крэхча памяць.

Пешшу нязвыкла хадзіць.
Едзем на конях,
                          ад коняў нашых
                                              тлум, што ў мазгах сядзіць,
Пнецца ў вочы з вушэй
                                              мройным маршам.

## Суніцы

Шукаю, мой пошук як марны
пошчак,
Быццам збіраю суніцы ў кошык
На той паляне, дзе сярод сцёжак
Багата гэтых самых суніц.

Але так цяжка стрымацца мне,
Нібыта я у пякельным сне.
Хапаю вуснамі без разбору
І смак суніц, і сунічны водар.

Бывае, сон мой жыццём
становіцца.
Тады ўсё ірвецца, грукоча, коціцца...
Кідаю справы, каб з кім дамовіцца
На продаж суніц
з гэтым самым
кошыкам.

## Абуджэнне

Ну што, браток, да раніцы дажыў?
І прачынацца трэба, і глядзець.
Рабіць гэта балюча, як і жыць,
Адчуўшы, што цябе няма нідзе.

Ты можаш адбівацца у вачах
Людзей вакольных бляскам
                                        нежывым,
Але, калі сарвешся закрычаць,
Не ўцяміш,
                што ўсяго толькі заныў.

Скугол падземны
                          душыць з вышыні
Цябе,
        і не чапае ён другіх.
Пад раніцу ўсё хочацца змяніць,
Але не маюць выхаду кругі.

Кругі, кругі і плямы у вачах —
Ну што, браток, да раніцы дажыў?
Калісьці гэта трэ будзе канчаць.
Не хочаш.
              І ад гэтага дрыжыш.

* * *

Так глыбока ўначы,
аж пад ранак.
Бразгат засавак і ланцужкоў.
Мы згубілі ўсе спадзяванні,
А той-сёй проста ціха сышоў.

Не насустрач,
а ў бок працілеглы,
Не з усмешкай на вуснах, а так,
Зубы сціснуўшы, людзі пабеглі,
Баючыся хадзіць па начах.
Вы ж з'явіліся позна, даруйце,
І не трэба нам ветлівых слоў.
Тут ваш голас не чуюць,
а чуюць
Бразгат засавак і ланцужкоў.

## Лета

Кволым парасткам адзначыў
Час, што лета надышло.
Ўсё, што можа, лоўка скача
Скрозь сагрэтае святло.

Толькі нешта я не веру
Ні у чэрвень, ні ў цяпло,
Ні у скокі, што без меры,
Ні у значнасць важных слоў.

Але гэта ўжо не лета,
Кволы парастак замоўк,
Са ўсім светам ладзіць мэта,
Тая, што я не знайшоў.

Жнівень пырскае ад смеху,
Не усцішыцца ніяк,
Адмаўляе небяспеку —
Ва ўсім свеце ён ды я.

* * *

Быў ліпень.
Ноч.
І дожджык церусіў.
Калі ж я зоркі ўбачыў
І уцяміў,
Што сплю,
То вусны ледзь не пракусіў.
Ды што казаць —
вы ж ведаеце самі,
Якое абуджэнне можа быць,
Калі
раптоўна пачынаеш
жыць.

* * *

Вечарамі шукаецца месца
Адпачынку ад той мітусні,
У якой пражываюцца цесныя
І надзвычай кароткія дні.

Вечарамі чакаем, бывае,
Неахвотна прыходу начы.
Справы новыя не пачынаем
І пра справы старыя маўчым.

## *СТРУНЫ*

*Успамін мінулага дня...*
*Хроніка пражытых хвілін...*
*Дзесьці сёння ты не адна,*
*І чамусьці я не адзін.*

* * *

Ну вось ужо і ёсць нам
Што успомніць,
Ну вось ужо падумаць
Ёсць над чым,
І мары ёсць
Сярод няяснай стомы
Ад захаплення,
Але мы маўчым.
Маўчым пра ўсё,
Што нам так важна ведаць,
Маўчым пад дождж,
Пад вецер і пад час,
Які няўмольна
Набліжае бездань
Расстання,
Што чакае
Заўтра нас.

* * *

Шмат памыляўся, ведаю,
што ж зробіш,
Калі шукаў, затойваючы дых,
А ты ўвесь гэты час хадзіла побач,
Але не ведаў я, што гэта ты.

* * *

Размаўляць з прыгажуняю цяжка,
Вочы-кроплі глыбока-глыбока
Недзе
маюць мізэрны адбітак.
Гэта я
сёння зранку шчаслівы,
Бо у вочы такія патрапіў.
І ніяк не спасцігну, не ўцямлю,
Што мяне ў далячынь гэту кліча,
Чым мяне глыбіня тая вабіць
І чаму я маленькі-маленькі
Там,
А побач ёсць нехта вялікі.

* * *

З кожным слоўцам
бы праменьчык ззяе,
Песціць грудзі...
Слухаю цябе...
Будзіць памяць гэты ранак даўні
Светлым рэхам колішніх надзей.

## Голас

Цябе не бачу —
і няма жыцця,
Ідзеш насустрач —
мне б куды схавацца.
На голас твой гатовы адазвацца.
Працягваю я слухаць і маўчаць.

І столькі чую...
Як толькі душа
Уціск пачуцця гэтакі трывае?
І насамрэч мяжуецца з адчаем.
Ці ноч,
ці ранак,
ці пачаўся дзень —
Адно і тое ж маю уяўленне,
Аднолькава аддалены захапленню,
Якое сёння — кій мой і прамень,
Кірунак да найлепшых перамен,
Якія могуць быць і не адбыцца.
Умее нават памяць памыліцца,
Ацэньваючы тыя ноч ці дзень.

* * *

Перастань мне, калі ласка, сніцца,
Сніся іншым ці сама сабе.
Мне ж дазволь
праспацца і забыцца,
Што была ты побач у журбе.

Калі ласка, будзь сама сабою,
Не гуляй у лепшы варыянт,
Бо яно не надае спакою
І не можа нечаму спрыяць.

* * *

Перастань мне сніцца, калі ласка,
Не прыходзь пад раніцу цішком.
Добра бачу: твар твой — гэта
маска,
Ты яе не скінеш языком.

Хай кляну імгненнае празрэнне,
Хай змяніць нічога не хачу,
Але з нейкім новым нецярпеннем
За табой, прачнуўшыся, сачу.

* * *

Я трымаў сваё шчасце ў руках
І баяўся ў кішэню пакласці,
Бо тады не было б ужо шчасцем
Тое, што я трымаў у руках.

* * *

Я памыляўся, але не шкадую.
На сэнс таго
                    наўмысна не зважаю —
У маіх думках ты зусім другая.
Гляджуся ў памяць,
                                каб цябе прыдумаць.
Мне спачуваюць:
                            што ж ты голаў тлуміш?
Няможна так хлусіць сабе самому,
Купі гарэлкі ды шыбуй дадому.
Але ж і там
                    мне не знайсці прытулак.
Сустрэчы выпадковай дачакаўся,
І падышоў, і вымавіў —
                                    ну вось...
Усмешка...
                бы чакала ты кагось,
                                            ды не прыйшоў ён...
Што зробіш ты?
Кім зведаю цябе?
Хто буду я ад гэтае хвіліны?

* * *

Ты, што і побач такая далёкая —
не дасягнуць,
А ўжо як сёння,
то й марыць няма
чаго,
Шчасліва будзь.
Не дасылаеш ні ліста, ні голасу
З краю свайго,
дзе, напэўна,
так хораша,
Што часу няма прагуляцца
у памяць
Ці прасачыць за бягучымі днямі,
Каб растлумачыць абраны
напрамак
Хоць бы сабе.

## Адвечнае

Ці ж ты не гэтага жадала?
Ці ж я не гэтага чакаў?
Збылося быццам бы,
а стала
Таго, нязбытага,
шкада.

## Самота

Здаецца мне, што вар'яцею,
У хмарны дзень шукаю ценю,
Бо так пячэ у галаву,
Што я нявесела жыву.

Сам не дайду ніяк да ладу,
Ды і ніхто не дасць параду,
Куды прыбіцца, дзе схавацца,
Каб з завядзёнкі не сарвацца.

Перажываючы ўсе гэта,
Я зранку споўдаю без мэты.
Маўчаць мне цяжка,
цяжка дыхаць,
З табою мне б пабыць
хоць крыху.

* * *

Пасля таго, як вецер перасціх,
Пасля таго, як неба пасівела,
Пасля таго, як снілася мне ты,
Я так хацеў хаця б здавацца
смелым.

* * *

Крок насустрач — такая дробязь,
Пераставіць адну нагу.
Намагаюся месяц зробіць,
Ды і сёння ўсё не магу.
Не магу усміхнуцца шчыра
І, ступіўшы той самы крок,
Больш не помніць
праз тваю міласць,
Існаванне другіх дарог.

* * *

Я зраблю табе ўсё, што хочаш,
Я аддам табе ўсё, што маю,
Толькі побач ідзі, не збочвай
І маўчы, што так не бывае.

* * *

Мне вельмі хочацца, каб ты
Была такая ж і надалей,
Каб гэтай цёплай прастаты
На усе жыццё табе дастала,
Каб ты была
заўсёды — ты.

З табой размова —
свята мне.
І толькі ўпотайкі ўздыхаю,
Калі міжволі закранеш
Ты тыя струны ува мне,
Што не табе сягоння граюць.

* * *

Шэры хмары разганю
Празрыстым ветрам,
Пагляджу праз цішыню
У бок твой.
Дзе ты?
Ці ж дарма табе шляхі
Свае тлумачыў?
Ці ж я сам, сляпы такі,
Цябе не бачу?

* * *

Мне з табою бліжэй да неба,
Я з табою не чую часу,
Па якім мне глядзець у неба,
Пад якім мне так мала часу.

І шукаю цябе і помню,
Як было і як не бывае.
Мне шукаць замінае стома,
Але я ўсё ж цябе шукаю.

А знайду цябе і забуду,
Ці ты ёсць, ці была калісьці.
Разгублюся, як перад цудам,
Аступлюся, і будзе выйсце.

## *ЗНЕШНЯЕ*

*Я чую і ведаю сам па сабе,*
*Але ж пад грамадскім уплывам*
*Раблю ўсё, што трэба не мне, а табе,*
*І не абы-як, а руплівa.*

* * *

Можна быць хворым
можна быць бедным
але жыць добра
гора не ведаць
калі ёсць вера
вера дасць сілу
пакажа дарогу
бура нахлыне
яна дапаможа
быць непахісным.

Не даспадобы
мне толькі адное
тое што робіцца
моцнай сцяною
вера сляпая.

Вера сляпая
ўзвяла абарону
не нападзе
але ты у палоне.

* * *

Пад зоркамі хадзілі,
Пад зоркамі жылі,
Але на іх ніколі не глядзелі,
І столькі усяго зрабіць паспелі
За час, што праблукалі па зямлі.
Стаміліся, заснуць не маем сілы,
А зоркі як віселі,
Так і цяпер вісяць.
Хіба ж каго
звычайным чынам зоркі
У чорным небе будуць хваляваць?

* * *

Куды дзяецца след
ад зоркі,
што упала,
Ад вогнішча,
што згасла,
Ад казкі,
што была?
Складанае пытанне.
Каб адказаць удала,
Шукаецца пачатак
Звычайнага цяпла.

* * *

Так цяжка разумець,
Што ты не самы лепшы,
І тое, што жыцця,
Апроч свайго,
Не бачыў.
І ўсё, што палічыў
Галоўнаю удачай,
Было для іншых
Знешнім.

* * *

Ты чый?
Нічый?
Глядзіце —
во нічый!
І гэтак ён
сам кажа пра сябе.
А гэта ўжо пытанне.

Калі нічый,
сам па сабе,
То хто цябе навучыў быць нічыім?
Той, можа, хто зрабіў цябе сваім,
Не маючы ніякае патрэбы
Табе паведамляць, што гэта так?

* * *

Ці я сплю, ці бачу гэта яўна,
Блытаніна не дае жыцця.
Вельмі добра ўсё было нядаўна,
І абы-што лезе ў працяг.

* * *

Будоўля — наша жыццё.
І ў жорсткім рытме стварэння
Мы робім вышэй за ўсё
Сцяну непаразумення.

* * *

Зусім нямнога давялося нам
Ў скарбонку зразумелага унесці,
На увесь двор пад раніцу туман,
І ты мне кажаш, што не любіш
                                        вецер.

А мы маўчым, і подых цішыні
Агортвае галовы наваколля.
Спачатку трэба браму адчыніць,
А потым нейкім чынам лёс
                                    адолець.

Нас мала.
            Можа двое,
                            можа менш,
І, каб жыццё няіснае праверыць,
Цябе я сустракаю
                        перш-наперш,
Чакаю і паглядваю на дзверы.

## Аптымізм

А з маёй жа лаўкі
                        нічога не бачна,
Але усё роўна
                    я жыццю ўдзячны.

* * *

А вы пачэсныя,
А мы апошнія,
А вы нябесныя,
Нібы нябожчыкі.

А мы сядзім-маўчым —
Не маем голасу.
Мы ваш глытаем дым,
Што ў вочы колецца.

Мы са свайго
Міжволі усміхаемся
І на другі працяг
Не разяваемся.

* * *

У свеце спакою нямашака,
І многім баляць галовы.
Жыццё —
                    гэта вельмі цяжка,
Асабліва калі па-новаму.

* * *

З ваўкамі жыць —
па-воўчы выць —
ці трэба?
Зямлю схадзілі —
розум ёсць —
шукайце ў неба.
Яно аддасць таму, хто возьме,
сваю сутнасць,
Ды ўсе, што ходзяць,
не бяруць
і кажуць глупствы,
Сярод зазначаных атрут
шукаюць выйсця,
Яго ж няма, калі заграз,
як ты ні мыйся.
Паспешны клёкат —
хто ляціць,
абмажуць тлушчам.
Алеем тлушч ці можа быць?
Маўчыць відушчы.

* * *

І што ж гэта робіцца?
Сварымся, лаемся,
Нашкодзім, збяжым.
І маўчым, як вяртаемся.

* * *

Ёсць словы,
ёсць пачуцці,
ёсць падзеі.
Складаецца з іх нашае жыццё.
Адзін яго аддасць,
другі падзеліць,
А трэці ўжо схаваў,
чацвёрты цёг
Да грамады.
Прадаць.
І што?
Купілі?

* * *

Сягоння свята.
Людзі на плошчы.
Ніхто не спіць
да позняй ночы.
Але і гарэлку ніхто не хвошча.

Пануе ўрачыстасць, натхнёнасць
і вера,
Паўсюль процьма літар вялікіх
памераў.
А зверху грыміць адпаведная
музыка.

Я бачу знаёмыя твары шчаслівымі
І сам разумею пад іхным уплывам,
Што сёння —
вяртанне да кукурузы —
Падзея ў нашай гісторыі.

* * *

Калі жыццё будуеш на былым,
На будучыню цяжка спадзявацца,
Бо будучае можа не збывацца
І не зважаць на даўняе прытым.

* * *

Сонца лісце фарбуе па-свойму —
Скончым сёння
                    глядзець на другое.
Сярод фарбаў дзівацтва пустое
Пераверне звычайныя словы.

* * *

Ну што вы, што вы,
            ці будзе лепш...
                        ...і гэта змова...
                                    ...ці ёсць там сэнс?..
Быў першаслоўя часовы змест.
Ну што вы, што вы —
                            не трэба лепш...
Цікавых зместаў зашмат наўкол...
Не знойдзе месца там ваш прыкол.

* * *

Звяртаюся да цябе
ці не?
Не ведаю.
Але ж мой зварот
Мігціць там, дзе ўваход
У будучы дзень, у лёс.
Каму я нясу?
Каму?
Навошта аддам-схаплю
Пытанняў-сцвярджэнняў
спуд —
Адбітак былых атрут,
Ужытых праз недахоп
Таго, што за грошы ўзяць
Ніяк...

## Летняе купанне

У кіпенні вада развяла каламуць,
На беразе трошачкі
можна дыхнуць,
І ногі у рукі, і ў вір галавой
Лячу, не даслухаўшы лямант
праклёну.
Ужо брудна-шэрым стаў
колер зялёны.
Смяюся, таму што
змяніўся настрой.
Ну што там?
Чакаю.
Давайце за мной.

* * *

Са шкадаваннем мы губляем тое,
Што прапануецца у якасці
жыцця.
Канешне, гэта важна —
жыць спакойна,
Чаго і дамагаюцца наўсцяж.

* * *

І новая восень.
І неба
Нанова відно,
аж наскрозь.
Але пра старыя патрэбы
Упарта нагадвае штось.

Іх ветрам не параздзімала.
І дождж іх сабой не накрыў.
Мне толькі іх і не хапала,
Вось гэтых патрэбаў старых.

Заўжды нешта хоча быць новым
І поўніць гаворкай сусвет.
Ды толькі ж патрэбныя словы
Не перад патрэбай, а ўслед.

## *РЭШТКІ*

*Хай сабе дождж і сваволіў,*
*Жнівень касуе мяжу.*
*Пэўна, такая ўжо доля —*
*Поўныя вочы дажджу.*

* * *

Няма нам справы
Да заходу сонца.
Яно й без нас
Ўсё зробіць
Так, як трэба.
Мы пальцам
На задыханым ваконцы
Свае імёны
Простыя вышкрэбваем.

* * *

Паветра бабінага лета
Мой свет кульнула дагары,
І больш празрыстага на свеце
Нічога лёс мне не дарыў.

Сноў відавочную няпраўду,
Прывабную больш за жыццё
І непатрэбную назаўтра,
Ты не спіхнеш ў забыццё.

Прагорклы пах зламанай веры
І поўніць нос, і муціць зрок,
Абшар мяняецца ў памерах.
І кожны крок — апошні крок.

* * *

Возера, сіняе вока,
Знізу глядзела уверх.
Неба, блакітная вокладка
Жыццяпісання агульнага,
Зманліва вельмі утульнае,
Хмары збірала ў каўнер.
Я на спіне каля возера
Погляд свой ладжу разгублена.
Стой, недарэчнае воблака,
Дух паралельнага позірку
Сэнсам не можа напоўніцца.
Стой, ты закрыеш адтуліну,
Факт разумення агульнага
Месца не знойдзе пад небам
І адамрэ без патрэбы...
Чуюцца сінія крокі.
Неба хаваецца ў ноч,
Невідавочныя клопаты
Не дазваляюць расслабіцца,
Думкі кульгаюць нязграбныя,
Нічога не бачна, апроч
Цемры адной надакучлівай,
Што воблакі з’ела бязгучна.
Возера вока заплюшчыла.

* * *

Адбіткі недасягнутае мары
Міжвольна загасаюць у вачах.
І гоніць восень хмары,
                    хмары,
                              хмары,
І сэрца не шкадуе па начах.

І мне баліць, што я цябе не помню
І што не вабіць больш тваё імя,
І зноўку набірае сілу поўня
На рэштках адыходзячага дня.

* * *

Патухлы позірк,
утароплены ў бурштын,
І аб мінулым,
як аб лепшым,
успамін.
І вось бурштын ужо —
пажоўклае лісцё —
Асеннім вогнішчам
прапальвае
жыццё.
Дай мне руку —
дапамагу табе
устаць,
Ўжо рушыць час,
ўжо холад
восеньскі працяў.
Па лісці пройдземся
сярод
пустых галін.
Калі расстанне нам прызначана?
Калі?

## Вечарамі шуканае

*Самотна дыхаю сусветам*
*Сярод сваіх бясконцых мар.*
*Жыццё ідзець так непрыкметна,*
*Як муха гадзіць на ліхтар.*

*ДАДАТКІ*

*Ці трэба было восень пачынаць,*
*Пакуль яшчэ няскончанае лета*
*Разгублена згасала у сусвеце,*
*Прыпомніўшы якой была вясна.*

* * *

Неба зоркамі міргала
Усю ноч,
І вось пад ранак
Перастаў глядзець з пашанай
На прывабную такую
З'яву матухны-прыроды.
І маральныя законы
Непазбежна
Склалі кодэкс...
Адчуванне —
Быццам родзіш
Найсапраўднае сумленне,
Толькі вызначыць не можаш,
Чым паведаміць пра гэта.

* * *

Многія з нас бачылі,
Ды маўчаць пра гэта.
                                        Свет.
Праменьчык выслізнуў
Між крывавых пальцаў.
І пульсуе сківіцай
Малпа пастамента,
Ды шкада, што вечарам
Ёсць куды падзецца...
Мітусіцца нечага...

## Дыпціх

1

Нам жыць не даюць
Нашы даўнія крыўды,
І новы не радуе,
Быццам бы сонечны, дзень.
Хацелі б іначай і лепей пражыць,
Але ж не умеем нічога,
і нават хацець.

Па ўсіх кіламетрах
Усіх захварэлых краёў
Замест указальнікаў
Сініх, што на гарады,
Пастаўце нам надпіс —
Да Бога,
І хай бы ён вёў
Усіх, хто дарогі шукае
Нязменна туды.

2

Прачніся, замкні дзверы
І ціха пад дзень шэры
Выходзь.
Не трэба браць паперы,
А трэба толькі верыць,
І годзе.
Жывём пасярод смецця,
Усе мы Божы дзеці —
І ты, і я.
Устань, ідзі па свеце,
І вера шлях асвеціць
Твая.

* * *

Бывае,
што не можаш
размаўляць ні з кім,
Не тое
каб сказаць
не ведаеш пра што,
А словы не складаюцца у сказы,
Ды робіцца так мала гэткіх слоў,
Якія менавіта зараз нам
патрэбныя.
Аднойчы вось
прыйшлося выдумляць
Нанова мову быццам.
Толькі б зразумелі.

Але праз пэўны тэрмін адчуваю,
Што мой занятак —
марнаванне часу,
Не толькі мне,
а ўсім не трэба гэта.
Ды я сваю гаворку не спыніў,
Не кінуў
сцягваць літары за вушы,
Каб зграямі
бязважкіх ланцужкоў
На волю клапатліва іх пасляць.

Ніхто не слухаў,
што я там казаў,
Ды й сам цяпер
наўрад ці узгадаю...
Адно толькі —
выдатная прамова!

Мне памяць захавала з таго дня.
І хоць тады яшчэ я разумеў,
Што людзі
гэтым кажуць мне няпраўду,
Усё ж пра сваю значнасць
уяўленне
Складаць пачаў
з той самае пары.
І гэта быў пачатак...
Цяпер не уяўленне...
Мая значнасць —
Канцэпцыя,
жыццё,
навука,
крэда...
Я даўна ўжо забыўся на той час,
Калі не мог пазбавіцца дурноты...

...Бывае,
што не можаш
размаўляць ні з кім...
Абы-што! У разумных не бывае!...

* * *

Тут пануюць лапухі,
Прыхінуўшыся да плота,
Дзед стаіць у брудных ботах.

Месяц выдаўся сухі,
Хмарак ані-ні у небе,
Тэрмінова дождж патрэбны.

Каб свяжыцца лапухам,
Я ні кропелькі не дам.

Сам з сабой так размаўляе
Дзед...

* * *

Тыя ісціны для вас ледзь-ледзь
Адчуваюцца пад самы скон:
Непахіснага няма нідзе —
Гэтых ісцінаў адзін закон.
Многа рознага з жыцця зрабіць
Вы маглі, але трымалі ледзь
Непарушным ахрышчоны свет,
Ды хапалі што бліжэй ляжыць.

* * *

Нядаўна жыў жа
І побач —
Далёка быў.
А паклікаць —
Дык завядзёнкі такой няма,
Так-такі ў грамадстве жывём —
Не адарвешся, каб не сарвацца.
Ёсць мяжа — рух толькі да яе,
А надалей
Смеласці не стае,
Абысці —
Сумненне ёсць —
Не дае,
Бо твае ўсмешкі мне — не мае.

* * *

У нешматлікіх забавах
Сярэдняга ўзросту
Баўлю час,
Не шукаючы сэнсу жыцця.
І ужо адчуваю сябе
Толькі госцем,
І яшчэ спадзяюся
На добры працяг.

## *ПРАЦЯГ*

*У час, калі сябе не пазнаваў,*
*І мэту абмінаў як перашкоду,*
*Хацела нешта думаць галава,*
*Ды толькі з ёй*
*Я быў тады не згодны.*

* * *

Урокі несапраўднае вясны
Мы адвячоркам хмура спасцігалі
І шкадавалі тых, што нам давалі
Урокі несапраўднае вясны.

Кавалкі ненажытай дабрыні,
На іх мы напачатку не зважалі,
А потым так расчулена шукалі
Кавалкі ненажытай дабрыні.

Мы ведалі пра тое, што жывём,
І марылі, як мы усім пакажам,
А калі век нас проста не заўважыў,
Вітацца перадумалі з жыццём.

Урокі несапраўднае вясны…
Кавалкі ненажытай дабрыні…
І грэх, не задаволены быццём…

* * *

Як толькі вецер раніцу прынёс,
І думкі сон развеялі да рэшты,
І пачало жыццё ізноў
прыспешваць,
І крочыла насустрач насланнё,
Усе пайшлі — хто мог і хто не мог —
І пратапталі новыя дарогі,
Куды каго тады панеслі ногі
З абрыдлых і пустых старых дарог.

Гады праходзяць, і бярэ сумніў,
Той, на якога
большасць не зважае,
І тая раніца ўжо быццам як чужая,
І вецер той — ці ён дапраўды быў?

А вецер быў —
пад вечар толькі сціх,
І сон прыйшоў усім памружыць веі,
І захацелася камусьці вечна
верыць,
Ды вечнасці хапіла не на ўсіх.

* * *

Не разумею клопату вады —
Схаваць усё,
                    што робіцца навокал,
Калі ж не можа змыць
                                    усе сляды —
Становіцца туманам перад вокам.

Усё, што хоча, ведае вада,
Праходзіць там,
                         дзе не праходзіць позірк,
Спыніцца можа толькі ад марозу
Каб паказаць на справе моц ільда.

*

Вада народзіць дым,
Зачаўшы ад агня,
Паміж пастылых зім,
У жоўтых прамянях.
Па стрэлах прамянёў
Паеду я дамоў.

* * *

Так жыццё паперабблытала шляхі,
Што не ўцяміш —
дзе уперад, дзе назад,
Тлумяць голаў непазбытыя грахі,
За якія давядзецца адказаць.

І не хочацца за хуткасцю сачыць,
І не верыцца,
што скончыцца бензін,
А дарога, што пад коламі маўчыць,
Разумее, што ў яе ты не адзін.

На гадзіннік даўнавата не глядзеў,
Бо не маю абавязкаў перад ім,
А заўважыў, што старэю пакрысе, —
Дык не век жа заставацца
маладым.

* * *

Мне саснілася,
што скончылася лета,
Пазбірала з дрэў апошнія лісты,
І з нябёсаў,
ад бясхмарнасці пустых,
Халадзеючае сонца непрыкметна
Замуціла позірк мой да слепаты.

Я не буду болей бачыць глыбіню
Цемнаты і цішыні чарговых сноў,
У якіх я да жыцця
амаль дайшоў...
І наўмысна
ўжо вачэй не расчыню
На бязмежжа
шырыні пустых размоў.

* * *

Цямнее і гусцее
цішыня,
І непазбежна хутка будзе
ноч,
Чаканне светлых думак
ля агня
І нечаканым госцем
дробны дождж.

* * *

Як у птушкі
у цябе усмешка,
Ясны позірк
дзіўнай глыбіні.
Без цябе
я неяк жыў, канешне,
Іншы свет
мне думкі паланіў.
Але зараз панавела вокал,
Як паветра
лёгкая рука
Мне працёрла стомленыя вочы,
Каб я бачыў, дзе цябе шукаць.

* * *

Ты мне пісала,
што канчаецца вясна,
Я прачытаў,
але чамусьці не паверыў,
Пабачыў лета
праз расчыненыя дзверы,
Але пакуль яшчэ
разгледзеў і пазнаў.

Ты мне казала,
толькі я забыўся што...
Бо ад таго
ужо мінула ладна часу...
Я твае словы
пагубляў сярод уласных...

* * *

Зямля, Лі Фан, вялікая такая,
Нам выпадкова
болей не сустрэцца,
Я вечарамі не цябе чакаю,
І да цябе не я прыходжу дзесьці.
Вакол не ты, і сумна быць вясёлым,
Але сусвет тваіх усмешак поўны.
Ён раздае іх бляск шматлікім зорам
І твой партрэт
пяшчотна лепіць з поўні.

* * *

А снег шукае месца на зямлі,
Пакінуўшы зусім сівое неба,
А снег ідзе туды, дзе мы былі,
Там нашыя сляды
прысыпаць трэба
І для наступных
свежы шлях сцяліць.

## *ПЫРСКІ*

*Позірк услед,*
*Працягу не знаходзячы,*
*Моўчкі вісіць, а слова не стрымаць.*
*Верыць сабе зусім ужо не хочацца,*
*Але маўчаць магчымасці няма.*

* * *

Ты помніш мае словы з тых часоў,
Як у размовах нам спрыяў
вакольны свет.
Калі гады мінулі — я прыйшоў,
Каб больш нічога
не паведаміць табе.

* * *

Маё сэрца душу тваю мерыла,
Так нясмела прытулку шукаючы.
Мы хадзілі, маўчалі і верылі,
І зусім не збіраліся каяцца.

## Абуджэнне

Бы гадзіннік стрэлкі ссунуў,
Скіраваўшы на самоту.
Рана ў свеце, ў ранні сумна,
І пакуль няважна, хто ты…

* * *

Ахвяруючы мазгамі,
Я не стану у чаргу,
Мы аднолькавыя з вамі,
Але я так не магу.

* * *

Шлях да сябе праз снег,
Шлях да сябе праз дождж.
Дойдзем усе ці не? —
Ззаду пытае хтось.

* * *

Што бывае, чаго не бывае —
Зразумець намагаюся ўпарта,
Ды, здаецца, не тое чакаю,
Што чакання
                    сапраўднага
                                        варта.

* * *

Калі пачацца — ведае зіма,
Калі па чарцы — ведае прапойца.
І так нялёгка часам супакоіцца
Таму, хто спадзяваўся іх стрымаць.

* * *

У адмарозкаў логіка свая,
І так няпроста часам зразумець,
Чаму яны працягваюць стаяць,
Калі ім сама правільна — сядзець.

* * *

Зіма, вясна…
…па-за належным часам
людзей няма,
І я жыву сам-насам.

* * *

Паэт, нават самы сапраўдны,
Жыве у грамадстве, таму
Кавалкам залішняе праўды
Націсне на грудзі яму.

* * *

Вольнаму воля,
А мне каляіна,
Быццам бы я
Выбіраў гэткі шлях.
Збегчы б куды,
Але там не айчына,
Людзі чужыя,
Зямля не мая.

* * *

Не заўважайце лепей вы
Таго, што вас не тычыцца,
Памылкі аб’ектыўныя
Памылкамі не лічацца.

* * *

Калі няма куды схавацца,
Не мітусіся, сядзь на лаўку.
Сядзі сабе, глядзі у неба —
Каму такі аёлт патрэбны.

* * *

Маю ўсё — дом мой поўная міса,
Толькі сёрбай, смакуй,
Ды не пырскай.

* * *

Ужо. Канешне. Так яно і ёсць —
Падзеі перажыўшы, разумеем,
Тады ўжо
са спазненнем разумнеем
І перанакіроўваем злосць.

* * *

Сонца блішчыць, ажно слепіць,
Але цяпла не дае.
Знацьме яно, як мне лепей
Множыць сумненні мае.

* * *

Чым за розумам ганяцца —
Дайце з глупствам разабрацца.

* * *

Восеньскія беглі завіхрэнні,
Пасярод дажджу агні вяргінь
Біліся аб мокрае каменне,
На муры вытрэсвалі мазгі.

* * *

Я у тэлефоне-аўтамаце
Ехаў паміж дзён — сярод начы,
Вы таго не снілі, што я бачыў,
Ды, на жаль, не здолеў уцячы.

* * *

Вочы смелыя, незразумелыя,
Прачытайце мне новую казку,
Я, на жаль, да канца не паверу вам
І забудуся большую частку.

* * *

З кожным днём
мы бліжэй да вясны...
Гэта думка ў сярэдзіне лета
Мне датуль падавалася смешнай,
Покуль я той вясны не прысніў.

* * *

Чыстае-чыстае неба,
поўныя вочы нябёс.
Болей нічога не трэба —
толькі б не лейцы
пад хвост.
Толькі б не менела людцаў
з крыўдамі і
варажбой —
Хай хоць пяюць, хоць смяюцца,
а я
застаюся сабой.

## Хайку

Такая верасовая вясна
Недаплецены лапаць
Сніць сябе галёшынай

*ПЕСНІ*

*Я тлумачыў душы,*
*Што яна не баліць...*

## Навіна

Хоць бы хто толькі праехаў,
Хоць бы хто толькі прайшоў...
Мы шукаема ўцеху
Пад галінамі дубоў.
Ззаду — гай, а во — дарога,
Круціць ветрык яе пыл.
Мы сядзім. Нас тут нямнога.
Кожны кожнаму ўстыў.
Мы пад'елі і чакаем —
На каго каб паглядзець...
Толькі што гэта? З-за гаю,
Во! Пабачце! Нехта йдзець.
«Гэй! Чаго ты ходзіш тутка?..
Стой!.. От я табе піхну!..
Мы цябе адпусцім хутка,
Калі скажаш навіну».
«Навіну! Ого схацелі!
Я і сам іду дарогай,
Ўздоўж якой вы тут паселі,
Каб уцекчы ад старога.
Мне здаецца, што і заўтра,
І сягоння як учора —
Я жыцця свайго не аўтар,
А слуга яму пакорны.

Зрэшты, што ж — жывуць і слугі,
І бывае, што няблага,
Толькі мне устыла дужа
Прымусовая павага.

Каб сапраўднаму здзівіцца,
Я стаміўся, ногі збіўшы...
Мо дасцё вы мне вадзіцы?»
«Не! Ідзі адсюль не піўшы».

## Шлях

Вось ён, мой жыццёвы шлях.
Час пускае толькі ўперад.
Далячынь, абшар, абсяг...
Ды зачыненыя дзверы.
Так — не так, і ці туды —
Хтосьці проста скіраваўся,
Хтось спыніўся назаўжды,
Толькі ў памяці застаўся.

І ніяк не разбяру —
Ці шыхтом іду, ці полем.
Ці з гары, ці на гару...
Што за дзверы навакольна.
Туды ногі не нясуць,
Куды вочы паглядзелі.
Нехта шэпча: «Не марудзь!»,
Але я яму не веру.

## Хада

Месяц рушыў зорным небам,
Я не ведаў, што мне трэба,
І ішоў, прыспешваючы крок.
Рытм хады надзвычай шпаркай
Ззаду быццам біў па карку —
Толькі ўперад! Ні назад, ні ўбок!

Мне б дабегчы, покуль цёмна,
І спыніцца, як штодзённа,
На светлы час у знойдзены куток.
Каб адтуль з пачаткам ночы,
Адпачыўшы, далей крочыць —
Толькі ўперад! Ні назад, ні ўбок!

Я іду, калі бязлюдна,
У самоце абсалютнай,
Я ў жыцці баюся аднаго —
Што сустрэнецца знянацку
Той, што можа запытацца —
Хто такі, куды я і чаго?
Толькі ўперад! Ні назад, ні ўбок!

## Адчуванне

Туман вакол бы малако,
І ўсё аднекуль прыбывае.
Я адчуваю сваю кроў,
Што паступова закіпае.
Пайшоў патроху, ды шляхоў
Па-за туманам не убачыў.
Адно што не зваліўся ў роў,
А болей не было ўдачы.

Перачакаць не захацеў,
Нашто жыццё
З'ядаць чаканнем?
Я перад выхадам прысеў
І уздыхнуў пры развітанні.
Ды вось іду — туман вакол
Хавае дрэвы і пагоркі.
Мяне штурхае непакой
Туды, дзе чуецца гаворка.

Я чую многа галасоў,
Ды разбіраю ледзьве словы.
Не, не такіх мне трэба слоў —
Хай песня зробіцца з размовы.
Я б накрышыў хвілін з вякоў,
Матывам тым падперазаны.
Я адчуваю сваю кроў,
Але не сэрцам, а нагамі.

## Карова

Над лясочкам, над гайком
Заўтра ў раніцу цішком
Выплывала па паветры
З нейкіх ліхаведных нетраў
Белай плямай папяровай
Незвычайная карова.
Далей, быццам бы паволі,
Паплыла яна над полем.

Белая карова ў сінім небе
Паміж хмар упэўнена плыве.
Першы раз убачыў — не разгледзеў,
Сёмы раз убачыў — абамлеў.

Быццам з глузду хто спіхнуў,
Абмінаючы сасну,
Зауважыў я шлагбаум,
Што знайшоў сабе забаву —
Не пускаў у лес нікога,
Хоць была туды дарога.
Ён адказваў на пытанні:
«Там у нас выпрабаванні».

Белая карова ў сінім небе
Паміж хмар упэўнена плыве.
Першы раз убачыў — не разгледзеў,
Сёмы раз убачыў — абамлеў.
Дрэвы не даюць заўважыць цалкам
Белае жывёлы пілатаж.
Мне б туды бліжэй, ды гэта палка
Кажа, што «не велена пушчаць».

Не магу я зразумець —
На халеру ёй ляцець.
Абдурылі нeяк, мусіць,
Ды не спытаешся ж — не пусцяць.
І хоць пляваў я на пагрозы,
Але ўласны маю розум.
Думаў, едучы дамоў,
Што не ведаю кароў.

Белая карова ў сінім небе...

## Наследаванне Ясеніну

Дробным дрэўцам на дарозе
Свеціць месяц, цішыня.
Падарожны моліць Бога,
Абдымаючы каня.

Конік мой зусім аблезлы,
Але ж, хоць і так, спрадвек
Па дарозе хутка ездзіць
Любіць рускі чалавек.

Дзе гармонік мой? Урэжу
Я не горш за салаўя.
Самым першым непазбежна
Ў кожнай вёсцы буду я.

Без гармоні свята — п’янка,
А без свята сумна жыць,
Сумна жыць яшчэ без Ванькі,
Што не ведае мяжы.

Як гуляць, дык да знямогі,
Як сячы, дык з-за спіны,
Як скакаць, дык на ўсе ногі,
Як сварыцца — да вайны.

Стой, страляць не трэба, Ваня,
Пагуляем між асін.
Кажаш, што бацькі сяляне,
Дык і я ж сялянскі сын.

Эй, гармонік, ты атрута,
Я люблю з табой павыць,
Ты мяне заводзіш крута,
Аж сярэдзіна баліць.

Ой, бягуць вакол паляны
Ногі мерзлыя асін.
Ўся радня мая — сяляне,
Дык і я ж сялянскі сын.

**Папуасы**

Па вуліцы крочылі два папуасы.
Усё іх адзенне —
дзве брудных анучкі.
Бамбукавы дрын
і вядзерца з пластмасы
Трымалі ў руках
і спявалі ледзь чутна.
Ніхто тут раней
не чуваў гэткіх песень,
Ніхто папуасаў ніколі не бачыў.

Разявіўшы рот, застывалі на месцы
Усе,
        нават члены праўлення калгаса.

Адзін папуас усміхнуўся жахліва
І нешта прамовіў у вуха другому.
Другі папуас
                стаў маўклівы-маўклівы,
Вядзерца абцёр
                і схадзіў па-малому.
Ніхто хуліганства
                ва ўчынку не ўбачыў,
Бо гэтыя людзі
                не нашай культуры,
А нехта з разумных
                узяўся тлумачыць
Складаныя рысы
                туземскай натуры.

І сам старшыня
                прыглядаўся з павагай,
Як крочаць паўз вёску
                замежныя госці.
Усе наваколле чакала працягу,
А болей нічога і не адбылося.

## Марш

Стаміўся я і свой трамвай
Спыніў за лесам, каля плоту,
Пачаў з таго, што без ахвоты
Сябе ад крэсла адарваў.
Пайшоў за небакрай спярша —
Табе у вочы паглядзець,
Бо ёсць надзея адшукаць
У нетрах іх мінулы дзень.

Мінулае, незваротнае,
Я твой дотык чую ізноў,
Ды хапае бягучых клопатаў,
Каб нязважаны ён адышоў.
Толькі часам жыццё павернецца
Задуменна тварам назад,
Пералічыцца, перамерыцца,
І захочацца, а не ўзяць.

І верыў я, і марыў я,
І кіраваў сябе на шчасце.
І быў упэўнены, што ўдасца
Мне за руку цябе узяць.
Там не хапала сто гадоў.
Цяпер шукаю — куды дзеў
Той час, з якога я пайшоў.
Калі згубіў мінулы дзень.

Мінулае, незваротнае...

Іду назад, а мой трамвай
Грызе асфальт —
Знайшоў жа недзе!
І зараз мы туды паедзем,
Дзе ўсю зямлю асфальт схаваў.

І далей будзем існаваць
Ў мяшанцы кветак з камянямі,
Сябе ад крэсла адарваць
Яшчэ цяжэй нам заўтра стане.

Мінулае, незваротнае...

## Сабака

Вы кажаце,
што жыць вам вельмі сумна.
Усё жыццё нібы чарга да могілак.
Я ж выйшаў
па жыцці прайсціся гогалем,
Ды спатыкнуўся быў
аб чыйсьці клунак.
І стаў нібы сабака на банкеце,
Які даецца ў гонар тых дастойных,
Што ўрэшце дасталяліся да стойла,
Прайшлі чаргу, якую вы клянеце.

Мяне заўважыць цяжка паміж
кожных з тых,
Выключнай сутнасці сваёй
нястомных аўтараў.
Каб крыху казытнуць іх вельмі
вытанчаны слых,
Ў грудзях напяўшы сілу,
трохі гаўкаю.

Не тое, каб я быў зусім галодны
Ці мяне зайздрасць
злосна дапякала,
Але ж не спадабалася мне зала,
Дзе роднага не бачыў я ніводнага.
Сядзелі задаволеныя твары
На лаўках,
нахіліўшыся над міскамі,
І грэчку наварочвалі з сасіскамі,
І варыва
зацверджана нахвальвалі.

Нягледзячы на тое, што я гаўкаю,
У захапленні
жвэнькалі і жвэнькалі.
«Вы ўсё ж кусалі б
меншымі кавалкамі —
Так вам надолей хопіць,
даражэнькія».

## Гаспадарка

Заводзім гаспадарку мы —
Спачатку пабудуем млын,
Каб крыламі у кожны бок,
Каб людзям быў відаць здалёк.
На нашым млыне да нябёс
Наробім жорнаў і калёс,
Наставім скрыняў аж пад столь.
І гэта возьмем пад кантроль.

Хай заядае зайздрасць тых,
Хто голас замяніў на слых,
Хто бачыў і не дапамог,
Шукаючы другіх дарог.
Хай лепш за нас яны жаруць,
Бо нешта сеюць, нешта жнуць,
Але затое ў нас нязменна
То поспехі, то дасягненні.

Але затое мы заўжды
Жывём без стратаў і нуды,
Бо ведаем, што будзе заўтра,
Адно аднаму кажам праўду.
Таму што лепш за нас ніхто
Не высветліў жыцця выток,
І, каб яно было падзеяй,
Наробім ісцінаў з надзеяў.

## Мне стала кепска

Пачвара з кветкамі,
што можа быць дурней?
Мяне ўражвала
ад рання да змяркання.
Жыць брыдка вечарам,
а заўтра зноў ад рання —
Пачвара з кветкамі,
што можа быць дурней?

Другія людзі там,
адкуль і я прыйшоў,
Суладдзе іхняе учора не дзівіла,
Мне стала кепска, а за імі сіла,
Другія людзі там,
сярод сцягоў.

Сярод сцягоў было,
што можа быць дурней —
Жыццё без літасці,
жыццё — перамаганне,
Там трупы пакрываліся сцягамі,
Сярод сцягоў было
тым, хто іх нёс,
лацвей.

Хто лепш за ўсіх трымаў
усё, што нёс,
Пачвару з кветкамі
нагадвае і зараз.
Іх тут няма, а дыхаюць у карак
Пачвары з кветкамі,
што можа быць дурней?

## Парад

Тут толькі што было бязлюдна,
Было — няма на што глядзець,
Ды раптам выбухнуў салютам
Парад няздзейсненых надзей.
Ідэі, мары, спадзяванні,
Усё, на што дзівак палюе,
Ідзе у рад і нос хавае,
Вакол народ — народ цікуе.

Самаупэўненасць і чыннасць
За паганятых з двух бакоў.
Глядзяць, каб дужа не круціліся,
Каб хто куды не адышоў.

Парад няздзейсненых надзей.
Хто мусіў плакаць — засмяяўся.
Парад няздзейсненых надзей,
На жаль, ужо са мной зраўняўся.
Але пакуль што не крануў,
Не пацягнуў да ўдзелу ў свяце,
Пакуль і я магу смяяцца
З таго, чаго не дасягнуў.
Знік нечакана, як пачаўся,
Чатыры тоўстыя жанчыны
Пляц падмяталі і маўчалі,
І толькі ўздыхвалі няспынна.
Парад няздзейсненых надзей
Заўсёды раптам адбываўся,
Парад няздзейсненых надзей…
Нарэшце я адзін застаўся.

Калі пасціхлі ўсе грымоты
І коні развялі па стойлах,
Я прыдушыў сваю самоту
Дзеля таго, каб жыць спакойна
Сярод няздзейсненых надзей...

## Бульдозер

Паўднёвы ветрык так асцярожна
Здзімае смецце
з птушыных гнёздаў.
І там даўно ўжо ўвайшло у звычку
Жыць існаваннем гігіенічным.

А мы не птушкі, у нас не гнёзды,
Вывозіў смецце адсюль
бульдозер.
Цяпер шукайма, хто вінаваты,
Што ён зламаўся пасярод хаты.

Нам неахайнасць у вочы коліць,
Нядобрым пахам паветра поўніць,
Але ж бульдозер ніхто не чыніць,
Пакуль не ясна першапрычыны.

## Жаночая

Крывая вулачка мая,
Ад поля першы наш паркан.
Зранння хвалюецца сям'я —
Прыедзе сватацца Іван.

Яго чакаю ад вясны,
Малюся толькі аб адным —
Каб ён прыехаў не п'яны,
Як у мінулы раз, у дым.

Цвіце вяргіня пад вакном,
Няможна вочы адарваць.
Я кожны вечар перад сном
Яе выходжу паліваць.

Крывая вулачка мая
Разліла лужыны ізноў,
Сяджу такая не свая,
Чакаю ў роздуме сватоў.

## Слова

Што гэта ляціць так прыгожа,
Што гэта ляціць так бязважка,
Куды яно ляціць над дарогай,
На якую выбіцца цяжка?

Тыя, што ўжо на дарозе,
І на гэта нешта зважаюць,
Лепш глядзелі б проста пад ногі,
І тады б іх меней ламалі.

А яно ляціць так прыгожа,
А яно ляціць так паважна.
Шмат чаго змяніць яно можа
І на ўсе пытанні адкажа.

Што ж гэта за дзіва такое —
Быццам бы нікому не трэба,
Але ж увесь час пад рукою,
Нават калі кружыць пад небам.

Гэта ваша слова ляцела.
Да яго цягнуліся вушы.
А калі нам справа прыспела —
Устаю, руку працягнуўшы.

## Рука

Між сонцам і дажджом
Адтуліну шукаць.
Усталі і ідзём —
Не адчуваем час.
Маўчым, нібы ляцім,
Згінаючы мяжу
Між нашым й нічыім.
Ад сонца да дажджу.

Нам шлях дае зямля,
Трымае за руку,
Якую не узняць
Ад злосці на вяку.
Хай так — яна вышэй
Прычосак, мар і сноў,
Не мацае кішэнь
Таго, хто падышоў.

Рука каля ілба,
І пэўны рух за ёй.
Не лёс ёй заграбаць
Схаванае зямлёй.
Схапіўшыся за крыж,
Пад ім будуе дом.
З зары і да зары,
Пад сонцам і дажджом.

## Туман

Хто мае шлях — далёка не заўсёды
Магчымасць
вандравання карыстае.
Нашто неспадзяваныя прыгоды —
Выходзіць трэба, як туман растае.
За ім не ўгледзіш ані той дарогі,
Ні мэты, ні усмешак дабрахвочых.
Там быццам несвядома,
але робіцца,
Каб бачыць толькі тое,
што мы хочам.

Нічога не угледзіш за туманам,
Слабыя і запалкі, і прыкметы.
Чужыя словы
там гучаць падманам,
Але іх на ўвесь свет
разносіць вецер.

Замест таго, каб раздзімаць туман,
Ён завывае жудасна у печы.
Сядзім, усе свае, чужых няма.
І ты мне кажаш,
што не любіш вецер.

## Гаспадыня

Я буду тым, хто ёсць,
калі змаўчыш,
Магчымасць знойдзем,
каб паразумецца.

І неба будзе, зорка адарвецца
І паляціць туды, куды глядзіш.
Руку падстаўлю ёй ці галаву,
Каб, не дай Бог,
не бразнула аб глебу,
І выдыхне удзячна тое неба,
І ўдалеч павядзе замкнёны круг.

Гаспадыня ранішняй зоркі,
Сёння час вельмі пругкі і колкі —
Ў барацьбе з недахопамі часу
Не заўсёды ўсё проста і ясна.
Перамогі чакайце не хутка,
Калі ласка, не слухайце чуткі,
Не зважайце
на зайздрасць жорсткую,
Гаспадыня ранішняй зоркі.

«Вунь зорка,
што упала і дрыжыць», —
Адзін аднаму разявакі кажуць.
Адкуль яны бяруць
спакой і важнасць?
І хто ім права ставіць даў крыжы?
Дый што між іх, прабачце,
за жыццё?
Але такі ўжо
ёсць закон прыродны,
Што трэба жыць,
ты згодны ці не згодны,
А не абменьваць
сэнс на адкрыццё.

Гаспадыня ранішняй зоркі...

## Цяпло

Я пад асенняе цяпло
Падстаўлю галаву і сціхну,
Не маю грошы, як на ліха,
Купіць віна, каб адлягло.

Надвор’е сёння даў нам Бог —
Душа становіцца на дыбкі,
Сказала мне: «Пазыч, а выпі» —
І выпіхнула за парог.

Я пад асенняе цяпло
Падстаўлю галаву і сціхну,
Не маю грошы, як на ліха,
Купіць віна, каб адлягло.

Не надыходзіць штось мой час:
То рэвалюцыя, то бізнес.
Мяне бянтэжаць катаклізмы,
А я ж іх не хацеў якраз.

Я пад астатняе цяпло
Падстаўлю галаву і сціхну,
Не маю грошы, як на ліха,
Купіць віна на ўсё сяло.

Я свята верыў — будзе так,
Як бы хацеў, але й сягоння
Не пачуваюся я годна,
Бы зноў не з той нагі устаў.

Я пад асенняе цяпло
Падстаўлю галаву і здохну,
І зарасце пакрыху мохам
Маё апошняе жытло.

## Вясна

А пры канцы зімы
ужо вясна стаяла,
І хвіляй кожнай снег
з’ядалі раўчукі.
Праз іх скакалі мы
па плошчы ля вакзала,
І ты казала мне, хто я табе такі.

Ты крыўдзіла мяне,
бывала, і злавала,
Калі я не зважаў на многія са слоў.
Вось так вось і дайшлі
да самага вакзала.
Ты з’ехала дамоў,
і я дамоў пайшоў.

А сэрцам кожны дзень
я мераюся скочыць
Да тых часоў,
калі вось так яно было,
Але жыццё ідзе,
і хочаш ці не хочаш,
Не здолееш адчуць
тамтэйшае цяпло.

Тамтэйшага цяпла
пражытая магчымасць
Цяперашнім агням
далёка не раўня.
Хіба ж гэта жыццё,
прызнаюся вам шчыра,
Калі ў мінулым быць
так хочацца штодня.

## Позірк

Усё роўна была ты —
Мне дакорам тваё імя.
Я на ім быў распяты,
Але выжыў і ачуняў.
Недарэчныя згадкі
Мне спакою не надаюць,
Пачынаю спачатку,
Але ўжо для другіх пяю.

І у неба мой позірк,
А у небе ясней, ясней,
Ды па ім вецер ходзіць
Напярэдадні злых завей.
Кожны дзень новай сілай
Забірае даўнейшы сэнс,
Той, што, як мы лічылі,
Толькі наш і без перамен.

## Імя

На люстраной паверхні
прыпыненай вады
Імя маё узнікла
з таемнай глыбіні.
Блукаюць моўчкі словы
і блытаюць сляды
Неверагодных літар,
што пішуць прамяні
На люстраной паверхні
прыпыненай вады.

За люстраной паверхняй
прыпыненай вады
Не мой блукае голас,
не мой агонь гарыць.
Не трэба мяне клікаць —
я не хачу туды,
Не трэба мяне слухаць —
я не змагу там жыць,
За люстраной паверхняй
прыпыненай вады.

## Дом

Ад дажджу мяне ратаваў,
Мерзнуць не даваў па начах.
Ад паглядаў цяжкіх хаваў,
Без ключа пускаў пад свой дах.
Дом, пабудаваны з дзвярэй,
Выпіўшага дойліда твор,
Я пад яго дахам старэю,
Ўсё радзей выходжу у двор.

Дом, пабудаваны з дзвярэй,
Дзіркі прапускаюць вятры.
Хочаш — побач сядзь і старэй,
Толькі галавы не дуры.
Дом, пабудаваны з дзвярэй,
Выпіўшага дойліда жарт,
Дзіўнае такое стварэнне
Для усіх вакольных пачвар.

## Калыханка

Галованька цяжкая
Ў стоме вялікай
Туліцца-хіліцца,
Мружацца вочы.
Сонца ашалелае
Вось ужо й знікла,
Спі, я з табой
Да канца гэтай ночы.

Пяшчотная ночанька
Адмяніла пакуты.
Спі, я з табой,
Нас ахоўвае неба.
Яно забірае
Апошні твой смутак.
Аддай яму ўсё,
Табе ж многа не трэба.

## Злодзей

Над пылам і каменнем
жыццёвае дарогі
Твой стомлены вандроўнік
задраў высока ногі.
Хаця ён быў і грэшны,
але ж ішоў да Бога.
Натоўп яго падвесіў,
каб скараціць дарогу.

Ўскалыша цела ветрык,
і дождж яго абмые.
Вакол стаяць забойцы,
пакуль яшчэ жывыя.
І неяк ім няёмка з таго,
што нарабілі,
Хацелі папалохаць,
а выйшла, што забілі.

І просяць Пана Бога
узяць хлапца на неба,
Бо там, каб смачна есці,
не трэба красці хлеба.

## Малітва

Божа, чаму так — адным дык усё,
Мы ж, хоць і побач,
нічога не маем.
Крыж свой пакорліва неяк нясём,
Молім цябе, каб пазбавіў адчаю.

Хай сляпы убача,
Хай бязногі скача,
Хай крывы спрамее,
Хай спяе знямелы.
Твая сіла, Божа,
Усё гэта можа.

Божа магутны, ты недарабіў
Нечага ў нас. Дарабі, калі ласка.
Літасці прагнем, а не барацьбы.
Злітуйся, Божа, бачыш —
нам цяжка.

Хай сляпы убача,
Хай бязногі скача...

Молім з прыдоння
людскага жыцця,
Хілім галовы прад веліччу боскай.
Даў дрэнны пачатак —
дай добры працяг.
Перавядзі праз наступную восень.

Хай сляпы убача,
Хай бязногі скача...

## Развітанне

Ранішняя зорка апякае вочы,
Літасці не мае, ззяе, ззяе, ззяе.
Дзённыя усмешкі,
потым слёзы ночы
І канец дарогі разам асвятляе.

Я сыходжу ад вас,
каб ісці праз сябе.
Бывайце,
не забывайце.

Дзеўчыны і бабы,
спеўныя размовы,
Стол карчомны, мыты
п’янымі слязьмі,
І такі прывабны
любы звон грашовы
Пасярод устылай
людскай валтузні.

Я сыходжу ад вас,
каб ісці праз сябе.
Бывайце,
не забывайце.

Памяць пераверне
хутка мае словы,
Любяць жэрці чэрві
маёй музы рэшткі.
Я прыйду і буду
для наступных новы,
Для кагосьці смелы,
для кагосьці смешны.

Я сыходжу ад вас,
каб ісці праз сябе.
Бывайце,
не забывайце.

## Ад вачэй зялёных

Ад вачэй зялёных я жыву не так,
У вачах зялёных таямнічы знак.
Што ты ведаеш запаветнае?
У вачах зялёных таямнічы знак.

У пунсовым свеце рання
Выспявае прадчуванне
Хуткіх перамен.
І макрэюць твае вочы —
Развітання ты не хочаш —
Ясна як дзень.

Не ратуюць мае словы,
Стаў зялёным свет пунсовы,
Крохкі, як лёд.
І, узнікшы са здзіўлення,
Нечаканае імгненне
Поўніць усход.

Ад вачэй зялёных я жыву не так,
Светлая усмешка у тваіх вачах.
Недасяжная, невыказная
Светлая усмешка у тваіх вачах.

## Туманы

Выплывалі туманы,
Абарваўшы сон начны,
Хавалі ад вока пачатак дня.
Бачу я перад сабой
Развітальны позірк твой,
І ён ужо належыць туманам.

Пройдзе час,
                і застанецца толькі у ім
З развітання пачаты дзень,
Як след жаданага,
Як свет загаслага,
Як цень ад месяца, ты
Паўсюль, дзе цябе няма.

Будзе бачнай далячынь,
Будзе тысяча прычын,
Каб я у яе не схацеў глядзець.
Ды заменіць туманы
Шэры дождж ык аблажны,
Схавае мяне, як схаваў цябе.

Рэхам плыў па жыцці
                пасівелы дзень,
Туманы атачалі шлях...
І след жаданага,
І свет загаслага,
І цень ад месяца — ты
У снах пустых.

## Песня

Абарваная струна
Захавала рэшткі нот,
Там была мая віна,
Тут зусім наадварот.
Не сціхае шэры дождж,
Не ратуе парасон.
То упоперак, то ўздоўж
Няўмольным колам
Круціцца паволі,
Не сціхае шэры дождж.

Living: Рознае бывала —
Пальцы струны рвалі,
Здабываючы акорд,
Хочаш ці не хочаш,
З раніцы да ночы
Надакучлівы паўтор.
Будзе як будзе —
З даўніх часоў
Людзі як людзі
Ў рытмах дажджоў.

Абарваная струна
Сум не здолела трываць,
Гук пакінуты сканаў,
Сам не здатны сумаваць.
Бег гадзін зраўняе нас,
Непазбежна прывядзе
Ў нечакана новы час.
Хмары расплывуцца,
Вочы усміхнуцца
У раптоўна новы час.

Рознае бывала —
Пальцы струны рвалі,
Здабываючы акорд,
Хочаш ці не хочаш
З раніцы да ночы
Надакучлівы паўтор.

Будзе як будзе —
Пела струна.
Людзі як людзі
Толькі у снах.

## Новы круг

Быццам не я
Ўсё гэта бачу кожны дзень,
Як сонца пачынае новы круг
І ідзе праз хмары,
Дый ідзе сваёй дарогай
кожны дзень.

Бывае,
І мяне чакае
Тое, што я марыў забыць.
Другая,
Быццам не чужая,
І амаль такая, як ты.

Быццам не ты,
Не заўважаючы мяне,
Жывеш і усміхаешся другім.
І часы мінаюць,
Залішаючы бясконцасці гады.

## Раскіданы час

У глыбіні бязлітасных вачэй
Я не упершыню сябе губляю,
Сэрца рвецца як мага далей,
Галава назад яго вяртае.
І няма спакою да пары,
Дні бясконца хутка пралятаюць,
Сэрца надарванае гарыць,
Галава ўчадзелая чакае.

Доўга, доўга
Мары мае цябе шукалі.
Толькі, толькі
Зноў была, і зноў не тая.

Час рассыпаўся на рэшткі дзён
Незалежна ад нас.
Ён міне і парасце быллём,
Бо не наш гэта быў час.

## Цішыня

Калі глядзець на каляндар —
вясна прыйшла на вуліцу,
Калі глядзець на вуліцу —
зіма, снягі, мароз...
Калі глядзець па сутнасці —
Не маюць сэнсу позіркі,
А вочы, што адведзены,
Мудрэйшы маюць лёс.

Я цішыню псую паціху голасам,
Вечар забраў сабе пачаткі словаў.
Я не люблю банальныя гісторыі,
Але, на жаль,
жыццё мне дорыць новыя.

Калі закрыеш каляндар
і даты памяць выкіне,
Снягі збяруцца ў струмяні
і знікнуць назаўжды.
А цішыня навернецца,
здабыўшы права голасу,
І вы усё пачуеце
праз цішыню тады.

## Човен

Твой човен, той,
што плыў вадою чыстай,
Без пэўнай
мэты моўчкі рэзаў хвалі,
Ажно пакуль яго рукой празрыстай
Не ўзяла у свае абдоймы далеч.
Дзе ён цяпер, ці мае капітана,
Ці смела паглядае на глыбіні?
Ці як даўней — губляецца ў тумане,
Ці як пасля — імклівы і няспынны?
Ён больш, чым ёсць,
Яго не менш, чым многа,
Паўсюдны ён,
Ён там, дзе ёсць паветра.
І непатрэбнай лічыцца дарога,
І ні аб чым
не сведчаць кіламетры.
Вакол вада, і берага не бачна,
Ды й мне пакуль
не хочацца на бераг.
За яснасць неба я вятрам удзячны,
А небу ўдзячны быццам бы за веру.

## Сон забітага навабранца

Нябачны сум
прасцёр руку
сваю над галавой,
Неба стала блізкім, уздых застыў.
Далёкі дзень
злучыў ізноў мяне з табой
Мінулым сэнсам слоў.
Позірк твой захаваў
Праз гады
Такі пяшчотны цень,
У марах я акрыяў,
Але згасаю
Ў промнях былых надзей.

Няма надзей,
бо незваротны час мінае нас,
Помніш тую восень?
Я зараз там,
Як ні круці,
а не змяняе марш на вальс
Самотная рука.

## Марыльцы

Я прымаю вясну
невялікімі часткамі,
Адчыняючы вокны
шырока на досвітку —
Абуджэнне чакання
знаёмае казкі,
Што была у паўсне
ад апошняе восені.

І спрасоння непрыбраная вясна
Сёння з раніцы
зламала мой спакой.
Я расплюшчу вочы,
каб цябе пазнаць,
І пайду, калі паклічаш, за табой.

Я прымаю цябе
невялікімі часткамі,
Адчыняючы сэрца
шырока на досвітку,
Але ты застаешся заўсёды у казцы,
Што жыве у паўсне
да апошняе восені.

І спрасоння непрыбраная вясна
Сёння з раніцы
зламала мой спакой.
Я заплюшчу вочы,
каб цябе пазнаць,
І пайду, калі паклічаш, за табой.

## Дзень

Што учора не разумелася,
Сёння ясна, як Божы дзень,
І на ўсё ўжо хапае смеласці,
І на шчырасць няма надзей.
І той шлях, што не ведаў выбару,
Ужо неяк раўней вядзе,
І радзей я вачыма лыпаю,
Калі бачу другіх людзей.

Вечарэе, і пахне ліпенем,
І канчаецца серада,
І жыццё, што на долю выпала,
Не павернеш ані назад.
Як раней, дык міналі месяцы,
А як сёння — гады лятуць.
Непазбежныя, непрыкметныя,
І ўжо добра, але не тут.

## Мітусня

Я з гадоў перажытых помню
Мітусню каляровых дзён,
Пошук выйсця, і шлях дадому,
І гуканне наўздагон.
І памылак былых атрута
З цягам часу губляе смак —
Што калісьці было пакутай,
Таго проста ўжо няма.

Я, бывае, блукаю летам
За ўспамінамі след у след,
Я, бывае, гляджу без мэты
То ў люстэрка, то на партрэт.
А бывае, сябе здзіўляю,
І у доўгім жыцці надзей
Я спакою сабе шукаю
З цягам часу усё часцей.

## Завея

Пабачыў, як дрыжыць твая рука,
Бракуе ёй упэўненасці даўняй,
Не хочацца мне гэтакае праўды,
Але другой не выпадзе шукаць.

Не ведаю, ці ўспомніш пра мяне,
Калі імгненне
зробіцца празрыстым,
Ці зразумею я тваю няіснасць,
Якая непазбежна ахіне.

Няма былых гадзін у новых днях,
І шлях да іх не мае накірунку,
Караюць
непазбежным паратункам,
Галоўнаму дазволіўшы мінаць.

Вечарэе. Спакайнее.
Спаць кладзе зіма завею.
Неба заначуе на зямлі.
На падзеі і надзеі
Лёс жыццё паспешна дзеліць.
Паглядзець пакуль няма калі
На тое, што завеі намялі.

## Дзве душы

Дзве душы без сустрэч
доўга-доўга жылі,
І у кожнай было сваё сонца.

Але ж сонцу душу
як след не абагрэць,
Асабліва пры ветры бясконцым.
Ён занудна працяў
навакольны натоўп,
Што пад небам наладзіўся біцца,
Неба стала аднойчы
мільёнам пудоў
Непатрэбнага душам блакіту.

І у пошуках выйсця блукалі яны
І нічога сабе не хацелі,
Толькі месяц агульны
у небе начным
Перагледжваў іх летуценні.
Але месяц
сустрэчы ім не рыхтаваў,
Гэты толькі ў мінулым свядушчы,
Выпадковым дажджом
лёс нарэшце схаваў
Пад адзін парасон тыя душы.

Дзве душы ад сустрэчы
да будучых дзён
Небыццём разумеюць расстанне,
Сонцы іхныя ўжо
марна ззяюць з-за плеч,
Не прыдатныя да карыстання,
Замяняецца роспач
на новы настрой,
Асабліва не знаны дагэтуль.
І калі у душы
ёсць душа за душой —
Дасягнёнаю лічыцца мэта.

## Сонца

Сонца свеціць, сонца слепіць
Неба сіняе і парк,
Па зялёным ледзь прыкметна
Нехта жоўтым напісаў,
Што дні пралятаюць так хутка,
Што сон не ідзе па начах,
Што вуснам устыла маўчаць
Ці зноў пераказываць чуткі.
Цёплым летам не пра гэта
Людзі думалі, але
Час ім зробіў так, што мэта
Пераспела пры святле,
Бо неспадзявана ўзнікла
Сярод невядома чаго,
Збянтэжыўшы нават таго,
Хто быў гадаваны як прыклад.
Стала позна, стала сумна,
Уздыхнулі, хто не спаў,
Пачалі шукаць разумных
З недаверам без падстаў.
І, здзіўлена ззяючы, сонца
Пасунула за небакрай,
І лету махнула — бывай,
Дазволь не глядзець у ваконца...
Маўчы, каб ніхто не злаваў...
Але ж гэта ўжо не лета,
Спяць усе, хто пазяхаў,
Жмурыць вока мэта ў свеце
З недаверам, без падстаў.

## Надзея

Ў перакуленым свеце
з асаблівым жыццём
Трушчаць косці кумірам,
каб дарогу масціць,
Па-любому за восень
шмат чаго не змяніць.
Тухнуць стомлена вочы —
да чаго дажывём.
Ці надоўга мы тут, і якога чакаць
Ад шматлікіх знаёмых,
сваіх і чужых,
І чаму менавіта з такімі мне жыць,
І чаму не жадаю адсюль уцякаць?

Ўлезла ў вокны надзея,
але я з ёй не сплю,
Бо за вокнамі дзеляць
нанаў гэту зямлю.
І надзея, як курва,
зараз дорыць усім.
Пустазвон, шуры-муры
і кастрычніцкі дым.
Мне здаецца,
што хутка затрубіць анёл,
Ад рэжыму збаўленне
зламае пячаць,
І яна ўжо пятая, шостай чакаць
Засталося нядоўга, таму я пайшоў.

І убачыў там коні,
што даўней тут былі,
Хто на іх скачуць —
скажуць сваім выглядам мне —

Ці далёка да неба,
і як быць на вайне,
Што прыдумалі людзі,
жывучы на зямлі.

## Запаветы

Няма куды падзецца ад сябе,
Ад хібінаў народнае асветы
І ад таго, што трэ было б глыбей
Усведамляць старыя запаветы.
Іх сёння ледзьве бачна між падзей,
Акрэсленых
бязмежным небакраем,
Яны жывуць
каб з нас рабіць людзей,
А мы сябе бязглузда абкрадаем.

І кола дзён што маем сіл трымаць
Нам трэба ад учарашняга веку,
Пакуль што, людзі, вечара няма —
Спрабуйце асэнсоўваць небяспеку.
Хай тыя, у каго пяцьсот вачэй,
Свой позірк не хаваюць за дубіну.
Ёсць карак там, але няма плячэй,
І крэсла называецца айчынай.

Вам трэба жыць, ускіньце галаву,
Хай восеньскае сонца гэта бачыць
І хмары, што вакол яго плывуць,
Па-паказному
сёння не заплачуць.
Вам трэба толькі верыць, што яны,

Зацверджаныя
кожным новым векам,
З сябе яўляюць
скончанасць вайны,
І іншых не патрэбна запаветаў.

## Родны край

І дзяржава не ў гуморы зрання,
І начальнікі не спалі ўсю ноч,
Людзі гінуць, у суседа вайна,
Быццам справаў там не мелі апроч.
Каб я здох, як я хачу ваяваць,
Бачыць Бог —
трымціць жывая душа.
Хай сабе ільецца кроў не мая,
Але час прыйшоў і мне разважаць.

Я стаю, маўчу, гарэлку не п’ю.
Ой, здзіўляеш ты мяне,
родны край.
Тут дарвуцца, дык даюць, і даюць,
Толькі ісціны ў галовах мяняй.

Па дзяржаве,
што не ўстала зрання,
Важкім крокам ад мяжы да мяжы
Малпы ходзяць,
каб людзей разбаўляць,
Па магчымасці хістаюць крыжы.
Не вядзі мяне ў жыццё без надзей
Перакуленых трывогай мясцін,
У царкву вядзі, а не ў райаддзел,
Не на допыт, а на споведзь вядзі.

## Восень

Чарговая восень
закручвае сумны матыў
Пад цень непазбежнага,
даўна вядомы усім,
Паўсюдна прыходзіць,
са звыклых не збочыць шляхоў,
Вятры разганяе
сваёю празрыстай рукой.

Я грэшны, я перад табой
З адвечным маўклівым пытаннем,
З прыхіленаю галавой,
Такое вось выйшла спатканне.

Застылым чаканнем
каханне паволі ляціць,
Пакуль не замолім
свае маладыя грахі.
Асенняе сонца
дазволіць нам гэта, і мы
З яго блаславення
сустрэнем пачатак зімы.

Я грэшны...

Нясі мяне, восень,
паветрам сцюдзёным нясі,
Дзе клёны фарбуюць
халоднай крывёю лясы.
Вядзі мяне, восень,
вядзі да апошніх лістоў
І побач са мной
перад першай завеяй пастой.

Як я перад грэшнай табой...

## Кастрычнік

Кастрычнік, сонечны адчай,
праменні марныя,
Не грэюць болей, як звычайна,
дый захмарыла.
Па чыстым колеры нябёс
прагнала плямамі,
Я пазваніў у Магілёў —
там тое самае.

Восень, нахаба, лезе за каўнер
паветрам зімным,
Празрыстым холадам мяне
вось-вось абдыме,
Як пажадае, мой настрой
змяняе проста —
Такая вось у нас з табой восень .

Я неяк лета не пражыў,
не заўважыў,
І варажы, не варажы —
ніхто ж не скажа
Чаму няўдалыя былі
тых дзён хвіліны —
Іх сонца мелася спаліць —
не дапаліла.

Восень, загоіць ціха ў душы
апёкі лета,
І я па гэтае цішы
прачнуся з ветрам,
Тут з непакрытай галавой
знаёмы хтосьці,
Такая вось у нас з табой восень.

## Лістапад

Ізноў лістапад,
усё халадней, халадней,
Дарога назад і ўноч,
і ўдзень без людзей.
Канешне б пайшоў,
дык жа ж мне туды ніяк,
Я хворы душой, але не магу і я.
Ліст хоча падаць і ў лесе, і ў садзе,
Першы мароз пэўне заўтра кране,
У лістападзе, я ў лістападзе,
А памяць мая засталася ў вясне.

Іду па зямлі, як быццам яе няма,
Тут людзі жылі,
казалі, вось-вось зіма.
Паверыў было,
за імі амаль пайшоў,
Але замяло
мой шлях і людзей лісцём.

А вецер быў выў,
я слухаць яго не мог,
Бо ён аблажыў пачаткі усіх дарог
І шляхам маім
гуляў за мяне не раз —
Ад вёсен да зім
ён меў досыць вольны час.
Ліст хоча падаць і ў лесе, і ў садзе,
Першы мароз пэўне заўтра кране,
У лістападзе, ў лістападзе
Зноўку душа ашукала мяне.

Вось так і жыві, дарогі назад няма,
Уперад глядзіш,

ды ж толькі і там зіма,
Яе адмяніць не можа ніхто, і вось —
Не маеш ані,
ды ўжо разумееш штось.
Ліст хоча падаць і ў лесе, і ў садзе,
Першы мароз пэўне заўтра кране,
У лістападзе,
пры кожным раскладзе,
Хочацца выпіць і Сысу, і мне.
Сыс хоча падаць...

**Вада**

Я доўга глядзеў на ваду,
што колер мяняла пад вечар.
І мне мітусліва адсвечвала,
і хвалям спыняла хаду.

А восень прыйшла апасля,
прыйшла, як заўжды, нечакана.
Лісцё раскідала барвянае,
без яўнай ахвоты прыйшла.

Я вочы нагрэў аб агонь
і з цяжкасцю здолеў адвесці
Свой позірк на іншае месца.
Агонь уздыхнуў наўздагон.

А восень прыйшла апасля,
прыйшла, як заўжды, нечакана.
Маўклівая і апантаная,
без яўнай ахвоты прыйшла.

Я часта гляджу на людзей,
я, часта бывае, не бачу
Таго, каму можна аддзячыць.
Але не магу не глядзець,

Як восень прыйшла апасля,
прыйшла, як заўжды, нечакана,
Спаліла лісцё раскіданае,
надзвычай звычайна прыйшла.

## Дождж

Над зямлёй вісіць дробны дождж,
Неба шэрае, непамернае.
Кожны думае сам сваё,
Думкай поўніцца поле роспачы.

Святлее позірк неба восені,
З паветра ладзіць свет сусвет,
Жыццё маё стаіць як возера,
Што рэчку бачыла ў сне.

Адкажыце мне, дзе мой дом,
Я паверу вам, пачакаю там,
Пад нябёсамі, пад дажджом,
За парадамі і няпраўдамі.

Перад домам я уздыхну,
Мая вуліца перакуліцца
І скіруецца у вясну,
За ваколіцу, супакоіцца.

## Дым

Дым разыходзіцца ціха
над соннай зямлёй,
Нізкія хмары яго не пускаюць уверх.
Ён неадчэпны,
як рэха гаворкі пустой,
І невядомы ягоны сапраўдны памер.
Быццам забыўся агня,
што яго нарадзіў,
З цемрай напару хавае шляхі і сляды.
Вочы ад дыму такія,
што не паглядзіш,
Вось і завернеш, бывае, зусім не туды.
Вецер яму дапамог
уцячы ад дажджу,
Месяц яму дапамог паказацца ўначы.
Ён проста так
пераходзіць любую мяжу,
Але пры гэтым
не вабіць яго далячынь.
Мусіць, таму і ляціць
ён наўсцяж паўзучы
І не бывае такога, каб поўз летучы.

## Блукаю

Сонца мацае горад праменнем,
Спакваля запаволю хаду,
Пад канвоем уласнага ценю
Я далёка, бадай, не пайду.
Я вясновым дзяньком захлынуся,
Пагляджу ў недасяжнае неба
І убачу праз безліч спакусаў
Толькі тое, што мне без патрэбы.

Буду доўга хадзіць я кругамі,
Мерыць вуліцу, нюхаць паветра,
Мусіць кепска, што з раніцы п’яны,
Але справа, паверце, не ў гэтым.
Відавочнага бачыць не хочу,
Сам паглядаў чужых пазбягаю,
І, пакуль не заплюшчацца вочы,
Я блукаю, блукаю, блукаю.

## Пошукі адказаў

Быццам бы вясна мяне хіснула,
Штурханула, павярнула, павяла.
Я лыпаю вачыма і прастую,
Пакуль не ўбачу,
што яна прайшла.

Пошукі адказаў на пытанні
Цэлы час псуюць маё жыццё.
То разумны я, то ашуканы,
То мне здрада, то мне адкрыццё.

У межах красавіцкіх не ўтрыманае
Імгненна разышлося
на ўвесь свет,
Такое нечаканае каханне
Раптам супакоіла мяне.

І тое, што блукаў паміж трывогамі,
І тое, што спыняцца не умеў,
Мінулася нарэшце, дзякуй Богу,
Ды толькі дзе ты, дзе ты, дзе?

## Прыйдзі, мой каханы

Сароміцца яблыня
ў белым убранні,
Сароміцца дзеўчына
прагі кахання,
З усмешкай збянтэжанай
свет аглядае
І некуды раптам бяжыць у адчаі.

І вушы не чуюць,
і вочы не бачаць,
А сэрца грукоча —
так хочацца шчасця,
Жыццё раптам стала
суцэльным чаканнем,
І з вуснаў злятае:
«Прыйдзі, мой каханы!»

І хто не прыходзіць
такою хвілінай,
Каб даць ёй магчымасць
прачнуцца жанчынай,
Той проста глухі,
ці сляпы, ці убогі,
Загіне ў баку ад галоўнай дарогі.

І шчаслівы той,
хто пачуў і прыходзіць,
Хто дзеўчыне
ў палкім жаданні дагодзіць.
Жыццё пачынаецца...
Верыце, людзі?
Ім гора не будзе,
ім смерці не будзе.

## Будзе дождж

Летні вечар прапануе свой спакой,
Я гляджу ў яго пранізлівы падман,
Я пайду, калі паклічаш, за табой
Стараною, дзе шляхоў пакуль няма.

Не захоча хай ніхто мяне шукаць,
Нічыіх я не вазьму з сабой праблем,
Разумею, што не гэтага чакаў,
Прычакаецца галоўнае пазней.

Неба зоры паказала — гэта ноч...
Хмары зоры атачылі —
будзе дождж...

Я пайду, калі паклічаш, за табой
І нічога, калі хочаш, не знайду,
Летні вечар прапануе свой спакой,
Запавольвае развагамі хаду.

## Ты прымусіла...

Ты прымусіла пець
абарваныя струны,
Ды стаміліся пальцы,
ўзяўшы першы акорд,
І сама цішыня усміхнулася сумна,
А пасля быў уздых,
а за ім быў паўтор.

І чаму тая песня
раптоўна узнікла
Запрашэннем патанчыць
сярод летняга сну?
І ад гэтае песні
так цяжка адвыкнуць,
І ужо немагчыма
не кратаць струну.

І нябачны матыў раздае свае ноты
Таямнічаю хваляй сляпога цяпла.
І мінаюць імгненныя летнія ночы,
І апошняя раніца не надышла.

## Я ведаю

Я ведаю, што лісце ападзе,
Але пакуль не думаю пра гэта,
І бесклапотным падаецца лета,
І ўжо няма адбою ад надзей.

Непазбежнасць восені жыве,
Лёгка зводзіць мары да спакусы,
Адыходзіць, толькі каб вярнуцца,
І сваёй адвечнаю атрутай
Не дае спакою галаве.

Заўтрашняя восень у дзвярах,
Кожны прычакаў яе па-свойму,
Ўсіх прымае восень у абдоймы,
Што далей — нікому не вядома,
Хіба што наступная зіма.

Я ведаю, што прыйдуць халады,
І нават тэрмін ведаю дакладны,
Свой сум да таго тэрміну
адкладваю,
Я так раблю ўжо многія гады.

## Я ішоў да цябе

Я прасіў даць мне сілу
Масты папаліць,
Я тлумачыў душы,
Што яна не баліць.

Я ішоў да цябе
Ад мінулай зямлі,
З тагачасных снягоў,
Што даўно адмялі.

Я ішоў сам-адзін
Паўз размовы і дні,
Пра вяртанне назад
І не думаў ані...

За спіной толькі дым,
Пагарэлі масты.
Што цяпер, калі мне
Не сустрэнешся ты?

Я...

## Раскажы

Раскажы мне пра дождж, раскажы.
Хто у небе збірае дажджы,
Што шматдзённа ільюць
на маю галаву,
Хто у небе збірае дажджы?
Грэшны кавалак неба
бачыш ты навылёт,
Што табе заўтра трэба,
што табе як сваё?
Раніцай свежы позірк
ці вечаровы змрок?
Дай мне руку і пойдзем.
Ціха, за крокам крок.
Затрымай над вачыма руку,
Каб не зведаць ад сонца пакут.
У выглядванні хмар,
што абклалі абшар,
Каб не зведаць ад сонца пакут.
Грэшны кавалак неба
бачыш ты навылёт.
Што табе заўтра трэба?
Сонечны пералёт.

## Іншым часам

Раніцою ціхая зіма
Двор зрабіла белым і халодным.
Неяк гэта я не ўпільнаваў,
Не сустрэў яе на падыходзе.

Хоць яшчэ фармальна лістапад,
Але ўжо уладараць снегапады.
Традыцыйна трэба сумаваць
З гэтай пераменаю улады.

Але нешта сум не ў галаву,
Мусіць, пасумую іншым часам,
Вельмі тэрмінова я жыву,
Вось і не трапляю быць сучасным.

Заўтра будзе раніца, а я
Жыў яе учора і па-свойму.
Тая ж, што сягоння — не мая, —
Надта ўжо з’явілася павольна.

## У гэтых вачах

Ад зімы я хаваюся ў гэтых вачах
І блукаю па іх, як па доўгіх начах,
Што прысніць дазваляюць
нязздзейсную мару
І усмешку, што Вам
сёння вельмі да твару

Вашы словы абапал маёй цішыні
Запрашаюць мяне
пад свае прамяні,
Забіраюць употай апошні спакой.
Я ніколі раней Вас не бачыў такой.

Мне здаецца, што я —
ужо болей не я.
Ад здзіўлення
і дыхаць не ведаю як.
Без прасторы і часу
канчаецца дзень,
Разлятаюцца
сумныя рэшткі надзей.

## Перажыты дзень

Раскіданы снег,
Збунтаваны шлях.
Быццам развіталіся,
А куды ісці?
Перажыты дзень
Не канчаецца,
А ноч не пачынаецца,
Покуль побач ты.
Неба хмарамі
Ахінутае
Над маімі марамі
Замыкаецца.
Расказалася
Непачутае.
Тое, што даўжэй за ўсё
Забываецца.
Раскідала снег
Неба хмарнае,
Сівізна халодная
Там, куды ісці.
Перажыты дзень
Не канчаецца,
А ноч не пачынаецца
Покуль побач ты.

## Пад уздых каганца

Мы не тое усё разумелі,
Калі лямпе хапала агню.
Заўважыць як след не паспелі
Загібелае на караню.
Мы наўпрост пракладалі дарогу,
Не шукаючы нават прычын.
І цяпер, калі нас не так многа,
Нам не хочацца у далячынь.

Ад таго, што было непарушным,
Заўтра неба дымы праглыне,
І спакоем нацешацца вушы,
Я ж не дам вам успомніць мяне...
Сам забудуся колішні выклік,
Прачытаю імёны з канца,
Усміхнуўшыся
словам нязвыклым,
І засну пад уздых каганца.

* * *

Проста — убачыць неба,
Цяжка — ў яго паверыць,
Проста — кагосьці ведаць,
Цяжка — кахаць без меры.
Вызначыць меру проста,
Ды не заўсёды варта
Ведаць дакладна кошты
Думкам, што прыйдуць заўтра.

Прыслухайся, пра што пяе струна
У час, калі матыў расплюшчыў вочы.
Нам вельмі важна — добра пачынаць,
Але важней — своечасова скончыць.

Мудра — не ведаць лішніх,
Глупства — паспець усюды.
Мудрае дасць нам Звышні,
Глупствам адораць людзі.
Хочацца быць патрэбным,
Хочацца жыць іначай,
Цяжка паверыць небу,
Лёгка — яго не ўбачыць.

* * *

Небасхіл у хмарах цяжкіх,
Пажадана іх абмінуць,
Вось мы і шукалі шляхі,
Змарнаваўшы гэтым вясну.
Небасхіл у хмарах цяжкіх,
Хочацца прайсці паміж іх,
Новыя выходзяць шляхі,
Зводзяць нас са звыклых, старых.
На зямлі так цесна, таму
Воблакам раблюся сівым,
Развітальна вас абдыму,
Каб хутчэй забыцца зусім.
Каб ляцець без думак у свет,
З вышыні зірнуць на свой дом,
Зразумець, што робіць сусед,
І, нарэшце, скончыць дажджом.
Дыхае прасторай мой лёс,
Ні на што не хоча зважаць,
Лета ад зямлі да нябёс
Выпускае сонца гуляць.
Вечар непрыкметна прыйшоў,
Быццам я яго не чакаў,
З назбіраных небам дажджоў
На зямлю ніводзін не ўпаў.

* * *

Вось так сядзець, паліць і бачыць дождж.
Да вечара, які калісьці будзе,
Кудысьці пазнікалі дні і людзі.
Ёсць толькі дождж.
І ўпоперак, і ўдоўж.

* * *

Чаканне раніцы бяссоннымі начамі,
Крыху пакутлівы, крыху салодкі сум.
Кладуся ў ложак ды святло не выключаю,
Каб тваіх думак выпадкова не пачуць.
Каб бачыць лепш усё, што засталося
Майму здзіўленню ад тваіх слядоў,
А на душы, як і усюды, восень —
Халодна марыць, і дажджы ізноў.

* * *

Воблака становіцца вадой
Па дарозе з неба да зямлі,
Я ж не пачынаю быць сабой,
Покуль мяне думкі не знайшлі.

Вецер не шукае цішыні
Там, куды ён змушаны знікаць,
А струна упарта не звініць,
Покуль не кране яе рука.

Неба паглынае акіян,
З вышыні зрабіўшы глыбіню,
Песню, што да часу не мая,
Покуль нават я не пазнаю.

* * *

Жыццё непрыкметна мінае,
Пакуль мы плануем яго,
Хвіліну змяняе другая,
Нябачна складаючы год.
Гадоў гэтых неяк так мала
Адпушчана нам на зямлі...

...жыццё непрыкметна мінала...
...і мы не яго пражылі...

* * *

Усе, каго разгубляў, снуючы ў жыцці,
Могуць заўтра прыйсці ці ў дзверы, ці ў сон
Пасля доўгіх блуканняў між скончаных дзён,
Каб пытанні задаць
ці адказы знайсці.
Іх без сэнсу чакаць...
І без сэнсу шукаць...

* * *

Я паўсюдна шукаў твае вочы,
Каб у іх назаўсёды спыніцца,
Нават самай бяссоннаю ноччу
Ты магла мне раптоўна прысніцца.
Па жыцці мяне водзяць дарогі,
Як магу, выбіраю кірункі,
Без цябе ўсё здаецца убогім —
У спатканні шукаю ратунку.

Але ты не ідзеш мне насустрач,
Мае кветкі табе без патрэбы.
Паглынае пустыя пачуцці
Бессэнсоўна блакітнае неба.
Мяккі вецер становіцца пругкім
І паўсюдна вышуквае хмары,
Ён як ты — не даецца у рукі,
Ды навокал гудзе уладарна.

* * *

Паклікаў мяне вецер, а я
Якраз табе услед паглядаў.
А ты была зусім не мая,
І вецер мяне клікаў назад.

Памацаў вецер мне галаву,
Сказаў, што не пустая яна,
Я ведаў, што не веру яму,
Ды цяжка было гэта прызнаць.

Памацаў вецер мне галаву,
Сказаў, што пасівела яна,
А я ў той бок ціхенька зірнуў,
Дзе ты стаяла моўчкі адна.

* * *

Вясна прыйшла, такое ўсплыла,
Што памяняўся сэнс жыцця,
На шлях далейшы траціць сілу
Я пачынаю нехаця.

Ізноў ісці без адпачынку
Прытым што хочацца заснуць…

Я не люблю з тае прычыны
Доўгачаканую вясну.

* * *

Ў жыццё складаюцца бясконцыя спазненні,
Мы бачым іх звычайна не адразу,
У пастках выпадковых захапленняў
Пытанні ёсць, але няма адказаў.
І множыць сум запозненая шчырасць,
І цэлы свет не хоча быць часовым...

...гады прайшлі, а мы не навучыліся
Заўважыць пражытае у новым.

* * *

У нас няшмат на гэтым свеце часу,
Ды пачынаць спяшацца небяспечна,
Бо з неспасціжнай логікай пачатку
Прыходзіць шанец зазірнуць у вечнасць.

* * *

Дзень раптоўна канчаецца вечарам,
Успамінам становіцца дзень.
На імгненныя кропелькі вечнасці
Разлятаецца шэраг надзей.
І тады аж да самае раніцы
Мае думкі шукаюць цябе
І міжволі губляюцца ў памяці,
Калі зноў пачынаецца дзень.

Я ўжо не грашу спадзяваннямі,
Я старанна планую працяг,
Але мары жывуць па-за планамі,
Па-за межамі сэнсу жыцця.
Толькі сны паспяваюць за мроямі,
Толькі ноччу яны найбліжэй,
І здаецца, што здзейсніцца здолеюць,
Але зноў пачынаецца дзень.

* * *

Цябе няма ні ў вечары, ні ў ранку,
Цябе няма ні ў словах, ні ў вачах,
Няма цябе ў вакне, няма на ганку,
Няма цябе, настойліва няма.

* * *

Гэты вечар так паволі пачынаўся,
А пасля імкліва знікнуў у начы
І, памкненні цішынёю аб'яднаўшы,
Простым словам нашы думкі навучыў.

Гэтых словаў не хапала да світання,
І наступныя дарыла шчодра ноч,
А ўжо тыя, што былі пры развітанні,
Нам падказваў клапатліва дробны дождж.

Дожджык ліў, але яго ніхто не бачыў,
Як і раніцу, што даўна надышла.
Я ішоў і забываў сустрэчу нашу,
А яна усё забыцца не магла.

* * *

З незаўважных гадзін
Утвараецца век,
Праз які мы ляцім
Да вядомае мэты.
І усе намаганні не думаць пра гэта
Уплываюць на смех.
Нібы леташні снег,
Недасяжны спакой
Асцярожныя сны
Забіраюць з сабою.
Час пакліча на золку — яму не адмовіш,
Не запросіш дамоў.
Час зрабіўшы нічым,
Не складзеш яго ў век,
Праз які мы імчым,
Ігнаруючы вецер.
Хтосьці побач ляцеў.
Раптам знік непрыкметна.
Мо застаўся у сне?

* * *

Я ведаю, што ты побач,
Бо бачыў пясок на снезе.
Тут вецер звычайна ходзіць
Халодным сівым бязмежжам.

Сляды твае прыхавае
Імжой, каб я іх не бачыў.
Ты побач — я адчуваю
Прысутнасць вачэй гарачых.

Прысутнасць хавае сутнасць
У сум неспазнаных думак,
І хочацца быць пачутым,
Ды словаў няма разумных.

Я ведаю, што ты побач,
Ды клікаць не мае сэнсу,
Я моўчкі адводжу позірк,
Бо вецер услед смяецца.

* * *

Свет з пустога вакна —
Мая зорка цяпер,
Ёсць яшчэ цішыня
Ды замкнёныя дзверы.
А яшчэ неспакой
Ды шляхі ў непазбежнасць,
Я туды не з табой
Адыходжу, канечне ж.

Праслаўляю твой шлях
Ад наступнага дня,
Праслаўляю той дах,
Што мяне не прыняў.

* * *

Спазненняў у каханні не бывае,
Калі гэта сапраўднае каханне,
Яно сабе дарогу пракладае
За межамі наладжаных гадзін.
Жыве яно заўжды за небакраем —
Не варта без патрэбы там хадзіць.

Час няўмольна ў свеце валадарыць,
Ісці назад не ўмее як усе,
А стрэнецца з каханнем твар да твару —
Губляе незваротнасць пакрысе...

Дае каханне сум для адпачынку
У крыўдах паламанага парадку,
Былое рэчаіснасці часцінкі
Блукаюць рэхам будучых хвілін.
Каханню ў часе цесна па прычыне
Яго несумяшчальнасці ні з чым.

* * *

Адагрэй мае рукі подыхам
І маўклівасць маю даруй —
Я жыву у чаканні поўначы,
А мінулым я не жыву.

Толькі холад навокал вечарам,
І ўжо тут ні пры чым зіма,
Калі побач з душою вечнае,
А спакою у ёй няма.

Я тут быў, калі дні праходзілі,
І успомню іх — будзе час.
Адагрэй мае вочы позіркам
І застанься ў маіх вачах.

* * *

Пачынаецца неба з позірку,
З цішыні пачынаецца раніца,
З глыбіні пачынаецца возера
І з пачатку жыццё пачынаецца.

Пачынаецца песня з голасу,
Закаханага у матыў,
А яшчэ я заўважыў, што вечарам
З усяго пачынаешся ты.

* * *

Шэптам стомленых маразоў
У нябыт адыходзіць студзень.
Я б хацеў Вас кахаць вясной,
Ды яна так няхутка будзе.

А зіму не люблю таму,
Што яна замяла дарогу,
Што вятры яе снегам дзьмуць
І таму, што яе так многа...

* * *

Ты як хочаш, а я
Пачынаю спачатку.
У чаканні вясны
Не было разумення.
І пасля, як вясна
Раптам стала канчацца,
Пераблытаным сном
Аджыло захапленне.
Ты як хочаш, а я
Болей думаць не буду
Пра бягучыя дні
У тваім уяўленні.
Дыхаць стала вальней,
Зацікавілі людзі,
І прастора прыбавіла
Сэнсу імгненням.
Ты як хочаш, а я
Не нагрэюся летам,
Дажыву да зімы,
Не паверыўшы сонцу,
Ты як хочаш, а я
Мару зводзіць да мэты
Не хачу, бо тады
Яна страціць бясконцасць.

* * *

Я ускочыў у самы апошні вагон
І паехаў да даўна знаёмага краю.
Ён жыве без мяне безліч доўгіх гадоў,
І баюся, што зараз мяне не пазнае.

Я калісьці там быў нібы рыба ў вадзе,
Нібы птушка у небе ці дзірка у плоце,
Я не дыхаў так вольна пасля анідзе,
І не там я адчуў — што такое самота.

Першы раз я туды сапраўды захацеў,
Проста ўзяць ды паехаць
без пільнай патрэбы...
На зваротным шляху я глядзеў цверазей
І ў ваду, і на плот, і праз дзірку у небе.

* * *

Горад не пазнаў мяне сягоння,
Моўчкі я мінаў яго завулкі,
Выйсця вельмі доўга не знаходзіў
І блукаў, шукаючы прытулку.

Горад мой, вораг мой, адпусці мяне дамоў,
Я ў метрах тваіх вуліц сэнс губляю.
Горад мой, вораг мой, шэраг дзён, хвілін, гадоў
Няўмольна ў тваім чэраве знікае.

Хочаш, я скажу табе на вуха,
Кім ты мне прысніўся гэтай ноччу,
Горад, я хачу, каб ты паслухаў,
Дай мне зазірнуць табе у вочы.

Горад, адкаці свае машыны,
Дай маім слядам спакойна легчы,
Ладжу я з табой не лепшым чынам,
Але тут ужо як удаецца.

Горад мой, вораг мой...

* * *

Ты мяне пазнаеш па позірку —
За гады ён зусім не змяніўся.
Я дайшоў да выніку пошуку,
Так нічога і не забыўшыся,
Так спакою і не здабыўшы,
З марамі жыву ды з надзеямі,
Мне гадоў хвіліны набегалі,
Розуму трывогі прыбавілі,
Нарабіўшы з чорнага белага...
І наадварот тое самае...

Я цябе пазнаю па позірку,
За гады толькі ён не змяніўся...

* * *

Ноч, як абыякавасць чужая,
Моўчкі мне суняцца дапаможа,
Я цябе разважліва губляю,
А пасля бязлітасна знаходжу.

Неспакою дадае як можа
Вечар, шчодра тулены самотай.
Ўсё, што бачу, хоча быць прыгожым,
Толькі робіць гэта неахвотна.

* * *

Каму аддаць сваю пяшчоту,
Шукала сіняя вада
І аддавала мне ўпотай
Яе ў выглядзе ільда.

Мне лёд на сэрца лёгка клаўся
І дзіўна так не раставаў.
Чаму?
Пяшчоты той спазнаўшы,
Хацела ведаць галава.

* * *

Не дазваляць сабой валодаць
Бывае часам невыносна,
Бо розум робіцца халодным
Заўсёды адпаведным коштам.

Не існуе у свеце чыстых
Памкненняў, рэчываў, каханняў...
І шкло не можа не быць празрыстым
Без пастаянных праціранняў.

* * *

Сустрэчы, расстанні, сустрэчы,
І Вы да мяне ідзяцё.
Я думаў, што гэта жыццё,
А дзень пераходзіў у вечар.

Мо гэтай хвілінай і жыў я,
Калі гэтак праўда было,
І сонца ўцякала ад жніўня,
Ушчэнт разгубляўшы цяпло.

Я думаў, што гэта ў жыцці
Губляюцца рэшткі тых думак,
Сабе я здаваўся разумным,
А думкі змаглі не прыйсці.

* * *

Неба моўчкі міргала зорамі,
Я нікуды ішоў наўпрост,
І жыццё маё непаўторнае
Йшло абапал. Кату пад хвост.

* * *

Шчасце з налётам стомы,
Колкая насцярога,
Будучыні не помню,
Але знайду дарогу.

Заўтра хачу быць дома,
Хоць і не ясна — дзе ён.

Толькі ад шчасця
Стома
Страціла
Безнадзейнасць.

* * *

Я не упэўнены у тым, што ты была, —
Мінае час, і пераблытваюцца даты.
У сэрцы рэшткі непазбытнага цяпла,
І мне няўцям, адкуль яны узятыя.

* * *

Я забіраю сябе у цябе,
Заўтра я буду далёка-далёка,
Будуць гучаць незнаёмыя крокі
Тых, хто не спіць, пакідаючы свет.

Сонейка будзе спрыяць цемнаце
Бачыць суладдзе бязветраных думак,
Трэба там быць, каб застацца разумным
І па-другому жыцця захацець.

Я пакідаю сябе без цябе,
Адпачывай побач з новай усмешкай,
А калі знойдзеш з мінулага нешта,
Мне пазвані — я хачу паглядзець.

* * *

Ты мяне не будзеш шукаць
На шляхах мінулай зімы,
Дзе цябе калісьці чакаў
Я сярод сумётаў сівых.

Ты мяне не знойдзеш вясной
Пасярод нагрэтай зямлі,
П’янага ад сонца і сноў,
Сумнага ад словаў тваіх.

Толькі лета стане, і я
Знікну, як мяне не было,
Буду там, дзе ты не мая,
І пакуль яшчэ ёсць цяпло.

Прыйдзе восень сны раздаваць —
Не вазьму сабе пра цябе.
Ты мяне не будзеш шукаць,
Я цябе не буду чакаць
Сярод спадзеваў і надзей.

* * *

Словаў непачутых сляды
Не даюць спакою заўжды,
Скуль іх пананесла сюды,
Словаў непачутых сляды.

* * *

Мы абрастаем падрабязным
Праз вочы, вушы і душу.
Пытанняў болей, чым адказаў,
Штодня даводзіцца пачуць.

Гады ідуць, і вочы бачаць
У простых рэчах новы сэнс.
Невырашальныя задачы
Мы спасцігаем пакрысе.

І па-другому чуем словы,
І верым ім не як раней...

Усё, што заўтра будзе новым,
Учора нам было ясней.

* * *

Сядзеў, чакаў каля вакна
Твайго чарговага прыходу,
Не дачакаўшыся, прызнаў,
Што гэта дрэнна — быць свабодным.

* * *

Жыццё складаецца з памылак
І з намаганняў зразумець,
Куды ісці, чаго хацець,
Адкуль узяць штодзённа сілу,
Каб за памылкамі паспець.

* * *

Гады ідуць то бачна, то употай,
І азірнуцца часу не стае.
Мы са спазненнем бачым незваротнасць,
Ды ўсё часцей залежым ад яе.

Мінулае штодзённа даражэе,
А будучыня ў марах растае.
Нязбытнасць пачынае быць надзейнай,
І мы ужо імкнемся да яе.

Упэўненасць — устылая раскоша —
Дае нам стан, падобны да спакою,
І паглядае ўслед, нібыта просіць
Наперад не заўсёды быць сабою.

* * *

Гэты вечар да раніцы не дажыве,
Ціха знікне ў зіме, абярнецца цямрэчай.
Ён маёй галаве дазваляе сівець...
Карацей, ува ўсім — гэта вечар як вечар.

Ён другіх вечароў проста ведаць не мог,
Іх ужо не было, калі ён нарадзіўся,
Ненадоўга прыйшоў,
Відавочна здалёк,
Непрыкметна для вока сусвет атуліўшы.

На кароткі мой век паглядаў з-пад рукі,
А другую руку падаваў развітацца,
І на першы пагляд быў звычайны такі,
Нібы тут не хацеў назаўсёды застацца.

* * *

Я не жадаю болей лета бачыць —
Яно цябе забрала ад мяне.
Перажыву я гэтую няўдачу,
А восень сум дашчэнту праглыне.

Паветрам чыстым хай астудзіць голаў,
Апалым лісцем высцеліць шляхі.
Мне восень моўчкі прапануе волю,
І я прымаю шчодры дар такі.

* * *

Скажыце мне праўду
Пра ранішні вецер —
Ці будзе ён цёплым
На золку урэшце?
Ці згоніць ён хмары
Адсюль да суботы?
А можа, і ветру
Бывае лянота?

* * *

Вецер з неба, з мора хмара,
Па-над імі сонца яснае,
А унізе твар да твару,
Вочы ў вочы — думкі нашыя.

Вецер з неба, хмара з мора,
Паміж імі птушкі белыя.
Зараз, заўтра і учора
Я маўчу, каб Вы паверылі.

Хмара з неба, з мора вецер,
Перад імі зоркі раніцай,
А за імі цёплы вечар,
Што ніколі не канчаецца.

Дзе, калі і як развітацца,
Не пачаўшы жыць паўторамі?
Кожны з нас сябе дачакаўся,
Каб схавацца у гісторыі.

* * *

Было і так, што ты мяне чакала,
Але няўмольны час бярэ сваё,
Я летнімі кароткімі начамі
Надзіва добра помню, што ты ёсць.

І мой былы намер цябе забыцца
Такі далёкі сёння ад жыцця!
Прыходзіць ноч — ты пачынаеш сніцца,
Не даючы надзеі на працяг.

* * *

Вось і скончылася зіма,
Замянілі снягі дажджы,
Ёсць працяг, а мяне няма —
Я далей не збіраўся быць.
Я застаўся сярод зімы
У халодным сівым палоне,
Мне тут добра, я тут прывык,
Маё заўтра — ужо сягоння.

Мне відаць праз ільды вясну,
Мне відаць праз снягі людзей,
Я нарэшце ўжо адпачну
Ад надзей сваіх схаладзелых.

* * *

Калі вецер заснуў у сцямнелых нябёсах,
Што дазволілі зоры свае палічыць,
Зразумелася мне шараговая восень,
Ад якой ужо сёння ніяк не ўцячы.

Зразумеліся мне яе сум і варожасць,
І пранізлівы холад даўгіх вечароў,
І чамусьці яна мне здалася прыгожай,
Але месца свайго я у ёй не знайшоў.

Калі вецер заснуў у сцямнелых нябёсах,
Што дазволілі зоры свае палічыць,
Зразумелася мне шараговая восень,
Што маўкліва забрала мяне ў далячынь.

Як і ты, я уцякаю ад людзей,
Каб прыйсці, пабыўшы вольным, да другіх,
Як і ты, я толькі ўчора пасівеў
І пакуль яшчэ лічуся маладым.

# Навошта было мінулае

*І ЗАБАЎЛЯЕ ДУШУ ГАЛАВА...*

## Навошта было мінулае

Узрост нам гады прыспешвае —
Пачатак усё далей,
Збянтэжваюць змены знешнія
І сум у вачах, але...
З таго, што не трэба памятаць,
Не робім праблем ужо,
І што не паразгублялася,
Запознена беражом.

Калі пажаданым атулішся,
Натолішся аж цераз край.
— Навошта было мінулае, —
У будучыні не пытай.

## Не любіў я ніколі дарогу

Дзень пражыты, ў памяці спынены,
Крок ад існага да забытага,
Адчуванне чарговай магчымасці
Як падручнік жыццё перачытвае.
Тут я ёсць да канца не растрачаны,
Там я быў не пачаты, учорашні.
Параўнае зямля крокі нашыя,
І не факт, што цяпер яны большыя.

Быццам я пераблытаў пачуцці,
Не сваё карыстаю цяпло,
Падарыце мне шлях і забудзьце,
Што калісьці яго не было.

І пакуль мы стамляцца навучымся
Ад карыснага і непазбежнага,
Дні пражытыя памяць пракручвае,
Праглядае і перамешвае.
Патрабуе, каб азірнуліся
Ды нарэшце сябе супакоілі.
Не бывае дарогі з мінулага
Без слядоў ад грахоў незамоленых.

## Мой шлях, вядзі мяне, вядзі...

Стамляе дзень, і не хочацца вечара,
І забывае душу галава,
А сны упарта начуюць у вечнасці,
Там, як ні дзіўна, роспачы няма.

Вабіць услед за нязбыўнай надзеяй
Шлях пакручасты, ушчэнт замроены.
Нам у жыцці падабаецца ўдзельнічаць,
Нават калі няма настрою.

Як часта мы не зважаем на існае
І спажываем прыдуманы свет.
Нам за далёкім не бачыцца блізкага,
Што валадарыць жыццём неўпрыкмет.

Бывае, снім, як усё атрымаецца,
І расцягнуць намагаемся сон
Замест таго, каб чарговаю раніцай
Бачыць тое, што дзень надышоў.

Стамляе дзень, і не хочацца вечара,
І забаўляе душу галава...

## Я доўга глядзеў на ваду

Хавалася сонца за бор,
З азёрнай гуляючы хваляй,
Ваколле чакала Купалля,
А час не валодаў сабой,
І восень як быццам яшчэ
У нейкіх краях неспазнаных
Насуперак нашым жаданням
Насустрач паволі цячэ.

Я доўга глядзеў на ваду,
Што колер мяняла пад вечар
І мне мітуслівa адсвечвала,
Чакала, калі падыду,
А восень была апасля,
Узнікла ізноў нечакана,
Лісцё раскідала барвянае,
Каб бачылі ўсе, што прыйшла.
Я вочы нагрэў аб агонь,
Я з цяжкасцю здолеў адвесці
Свой позірк на іншае месца,
Агонь уздыхнуў наўздагон.
А восень прыйшла апасля,
Прыйшла, як заўжды, нечакана,
Спаліла усё раскіданае,
Без яўнай ахвоты прыйшла.

Калісьці напружаны час
Згасае, як доўгая хваля,
Учора пра восень казалі,
А сёння яна паміж нас.
Спакойна прыйшла апасля
На змену былым спадзяванням,
Прыгожая і апантаная,
Надзвычай звычайна прыйшла.

## Белы край

Белы край, зорны шлях,
Далягляды празрыстыя
Сніць да часу вясна
За мяжой рэчаіснасці.
Белы шлях, зорны край,
Ноч зімою бясконцай...
Хто ж другога чакаў
Пасля захаду сонца.

Зорны край, белы шлях,
Час складаецца з момантаў,
Час жыве у вачах,
Час ніколі не стоміцца.
І чакай не чакай —
Дачакаешся раніцай
Зорны шлях, белы край
І у марах, і ў памяці.

## Хада

Запытаўся я ў нікога,
дзе канчаецца дарога,
Ад якой мне ногі баляць.

Як адказу не пачую,
то знайду сабе другую,
Тую, што як быццам мая.

Каб была без каляіны
і вяла да той мясціны,
Дзе б мяне чакаў хоць бы...
Хто?
Зрэшты — гэта толькі словы,
бо няма дарогі новай...
Спасцігаю крок чарговы.

## Навакольныя людцы

По усім белым свеце не палічыш дакладна
Незнаёмых надоўга і нядоўга знаёмых,
Што не лічаць за справу спраўна праўду наладзіць,
Каб пасля ёй паверыць абсалютна свядома.

Ім заўсёды вядома, што было і як будзе,
Паспрабуеш аспрэчыць — сам сабе не паверыш.
Быццам твары як твары, быццам людзі як людзі,
Толькі вось за манеры хаваюць намеры.

Пачуваюцца добра,
Выглядаюць цывільна —
Як арабы ў Егіпце,
Як жамойты у Вільні.

## Цішыня

Цішыня без адпачынку,
Поўны вечар цішыні,
Млява мроіцца айчына
Па-за межамі вайны,
Па-за межамі прыгодаў,
Па-за межамі вякоў,
З пэўнай колькасцю народу
І амаль без мудакоў.

## Час

Час упарта робіць заўтра кожны дзень,
Аддае сябе аўторак серадзе,
Толькі памяць дазваляе ход назад,
Ды і то каб незваротнасць паказаць.

## Край мой

Спяць дубы векавечныя
Над замшэлым каменнем,
Побач дні чалавечыя
Пралятаюць імгненнямі.
Век агонь тут захоўвае
І ваду не чапае,
Але робіць часоваю
Чалавечую памяць.

Край мой бачыць азёрамі,
Край мой чуе лясамі,
Край мой літары зорныя
Ў небе ночы чытае.
Як калісь пачыналася,
Як свой лёс усвядоміць...
Ўсё, на што забываемся,
Край працягвае помніць.

Камянямі замшэлымі,
Векавымі дубамі
Нам легенды адмервае
Запаветная памяць.
Час агонь тут захоўвае
І ваду не чапае,
А хвіліна чарговая
Нас цярпліва чакае.

## Як ведаць

Ці можна дакладна ведаць,
Што здарыцца заўтра з намі,
Ці нам пашанцуе днямі,
Ці будзем чакаць далей,
Ці трэба шукаць прыгоды,
Ці жыць у суладдзі з модай,
Маўчаць і пры гэтым верыць,
Што з марамі весялей?

Ці можна дакладна ўспомніць
Шчыгулы часоў мінулых
І тое, што недачулі,
Ці варта давыдумляць?
Па-рознаму заўтра людзі
Пра сёння не думаць будуць,
Як станецца незнаёмай
Калісьці свая зямля.

## Маё сэрца

Звар'яцелай птушкай белай
Сэрца б'ецца па-за целам,
Хай пабудзе чым хацела,
Толькі б болей не балела...

Маё сэрца адрастала
Кожны раз на новым месцы,
Засынала на вакзале,
А жыло там, дзе прачнецца.

Я чакаць ужо не ўмею,
Мне ісці туды няймецца,
Дзе надоўга адхварэе
Перaробленае сэрца.

## Халодны цень

Халодны цень не бачыць сонца,
Вятры шукаюць, дзе заснуць.
У межах дня туман бясконцы
Хавае новую вясну.
А мы не гэтага чакалі
І не да гэтага ішлі.
Мы не хацелі як звычайна
І, як звычайна, не змаглі.

## Мама

Праходзіць час, мільгае днямі,
Ператвараецца ў мінулае,
І толькі дзякуючы маме
Мы марым, дыхаем і думаем.

Мы бачым, снім і трызнім лепшым,
Чакаем, верым, спадзяёмся...
Для мамы ж мы у рэшце рэштаў
Заўсёды дзецьмі застаёмся.

Мільгаюць дні, і час праходзіць,
І разумеем мы з гадамі:
Жыццё — суцэльная нагода
Нам за яго аддзячыць маме.

## Снег

Снег асцярожна складае
Неба на горад настылы —
Гэта зіма маладая
Дзеліць сваю чысціню.
Быць адмыслова шляхетным
Снежань яна папрасіла.
Снежань дамовіўся з ветрам,
Вецер пакуль што заснуў.

Шэптам здараюцца словы,
Сэнсу нарэшце няма.
Бачыш, як свет паступова
Атуляе зіма.

Заўтра штодня карацее
Роўна на тыя хвіліны,
Што бесклапотна ляцелі,
Склаўшы паціху гады.
Часу няма адпачынку
Па невядомай прычыне,
Ён з існага самы няспынны,
Ён толькі ідзе не туды.

Час адбываўся бязважка,
Беглі гадзіны дарма —
Гэта чарговую казку
Пачынала зіма.

## Часам

Часам нам даецца выбар
І у тым, чаго няма,
Часта мы шукаем хібаў
І не бачым
…а дарма.

Потым зноў даецца выбар
І у тым, чаго няма,
Мы зусім не бачым хібаў
І шукаем
…а дарма.

* * *

Дажыць да шчасця,
А што далей?
Адно імгненне —
І толькі памяць,
І толькі рэшткі
Былых надзей
Салодкім дымам
Перад вачамі.

Нарэшце можна
Ужо не марыць,
Нарэшце маеш,
Што так хацеў.
Усмешка стала
Жыве на твары,
Ды толькі голас
Маўчыць часцей.

Атрымаеш жаданы спакой,
Непатрэбны і своечасовы,
Пажывеш у суладдзі з душой
Ды з казанымі некалі словамі.

## Адкахаць

Хто ж там ведае, дзе і калі
Не адбудзецца новай сустрэчы,
І той час, у якім мы былі,
Успамінам кладзецца на плечы.

Быў жа дзень, што ўсё разумеў,
Бо так лёгка казаліся словы,
Толькі там, падавалася мне,
Заставацца ўжо бессэнсоўна.

Беглі дні, як кругі па вадзе,
Сярод іх праз памылкі уласныя
Я выходзіў з сябе, каб глядзець,
Як каханне змагаецца з часам.

Адкахаць канчаткова калісь
Давядзецца, нічога не зробіш —
Напачатку крыху пабаліць,
Але потым усё будзе добра.

Дні бягуць, як кругі па вадзе,
Сярод іх праз памылкі уласныя
Я выводжу сябе паглядзець,
Як каханне змяняецца з часам.

## Недасяжнасць

Выпадковых вачэй недасяжнасць,
Нечаканая і маўклівая,
Іншым разам дарогу пакажа
Ад сучаснасці мітуслівай.

І, як пах ад няпітае кавы,
Па-за ўласнасцю толькі існая,
І цікаўная, і цікавая,
Можа болей не паўтарыцца.

Выпадковых вачэй недасяжнасць,
Нечаканая і маўклівая,
Незаўважнай была, як звычайна,
У сучаснасці мітуслівай.

## Ліпеньская ноч

Ліпеньскай ночы на сон не ставала,
Сонца з усходу праменіла вецер,
Побач хвіліны ішлі непрыкметна,
Ды іх было мала, іх было мала.

Нашай сустрэчы як не існавала,
Не паспявалі ні думкі, ні словы,
Каб патлумачыць, што гэта часова.
Толькі адно удавалася — марыць.

Мала было нам наступных гадоў,
Што непрыкметна з дарогі знікалі.
Неяк не надта хацелася ўдалеч,
Але па-іншаму час не ішоў.

Новай сустрэчай канчаецца дзень,
Сподзевам цешыць нязбыўная мара.
Ну няўжо немагчыма, каб зараз
Моўчкі збылася старая надзея.

## Ужо

Я забыўся бачыць сэнс жыцця,
Звыкся з пастаяннай насцярогай,
Я ужо пралічваю працяг
І як мэту ведаю дарогу.
Спыненых імгненняў хараство
Саступае месца слушным рэчам,
З глыбіні пачуццяў чалавечых
Так няшмат у побыт перайшло.

Я забыўся, дзе твае сляды,
Што мяне калісьці хвалявалі,
Я не адчуваю смак вады,
Шклянку да канца не дапіваючы.
І зусім па-новаму не сплю
У часы, калі прыходзяць мары,
І спрытней ужо маўчыць гітара,
Слухаю часцей, чым сам пяю.

## Я не паспеў?

Я не паспеў дастаць да неба —
Яно схавалася ў начы,
Яно мяне не хоча ведаць,
Але чаму — пакуль маўчыць.

Маўчыць спакойна, нерухома,
Ўрачыста, як упершыню.
Пад небам я іду дадому,
Пад ім чарговы год мінуў.

Пад небам сон мяне атуліць,
Каб я ўцяміў пакрысе,
Чаму усе мяне не чулі
І тое, што казалі ўсе.

## Восень

Восень павольным робіць успамін,
Восень рыхтуе вецер да зімы.
І так хочацца не верыць,
Што нічога не змяніць...
Мы у ліпені і ў жніўні,
А у верасні не мы.

Ліпень меў што хаваць,
Ліпень ноч гадаваў,
Сноў, даўжэйшых за ноч,
Адбылося багата.
І працята было
Каляровым цяплом
Ад цямна да цямна
Невядомае свята.

Жнівень меў кожны дзень
Шмат наіўных надзей,
Не хацеў разумець,
Што і ён не бясконцы,
Але час не пытаў,
Як яму пралятаць,
Бо трымаў у руках
Захварэлае сонца.

Восень павольным робіць успамін,
Восень рыхтуе вецер да зімы,
Лістапад адлістападзіць
І нагоніць халадоў.
Дзе той ліпень, дзе той жнівень?
Колькі ім цяпер гадоў?

## Ранкам

Спалохаў вецер ранкам цішыню
І, абудзіўшы сонную надзею,
Маўклівай хмарай сонца агарнуў,
Каб на зямлю пакуль што не глядзела.

...а хмара сарамліва заірдзела.

## Як дзень...

А дзень,
што слепа прагнуў лепшага,
не супакойваецца вечарам,
Упарта не знаходзіць нечага,
каб проста рухацца далей,
І са здзіўленнем у вачах
Скрозь сон
імкнецца новы шлях
пасярод ночы распачаць,
Пад маладым прачнуцца месяцам,
наіўна прагнучы бясконцага,
Адчуць сябе
часцінкай вечнасці,
якая некалі успомніцца.
І, пажаданняў не здзяйсняючы
З-за іх адсутнасці навязлівай,
Дзень з новай сілай пачынаецца
І калі шчыра,
то не ўражвае.

## Ты дзеліш не са мною далячынь...

Цела натоліць смагу вадою,
А чым супакоіць мне прагу душы?
Як у памкненні яднання з табою
Выйсці за межы і не саграшыць...

І вар'яцее свет ад самоты,
Бо сэнсу не мае зямное жыццё.
Ные душа і так прагне палёту
Разам з нябесным маім пачуццём.

Смагу натоліць цела вадою,
А чым супакоіць мне прагу душы?
Ты не са мною...
Ты не са мною...
Ты не са мною...
Душа ні пры чым...

Ты дзеліш не са мною далячынь...

## Дзень чакаў

Хмары ў небе, шэры горад,
Неспакойна у жыцці
Мне было, але учора
Час прыйшоў цябе знайсці.
Горад ціха усміхнуўся,
Вецер хмары разагнаў,
Мне у вочы зазірнуўшы,
Дзень чакаў.

У святле тваіх вачэй
Абарвалася размова,
А навокал век ляцеў,
Не крануўшы нас.
Ні вясны і ні зімы,
Толькі вочы, толькі тыя словы,
Толькі ты, толькі я,
Толькі мы!

Нас пакліча дзень бясконцы,
Зазірнуўшы у душу,
Будуць помніць промні сонца,
Як хацелася пачуць
Голас новага кахання,
Што імкнецца праз гады,
І агульнае дыханне
Назаўжды.

Мары мроямі у снах
Праляцелі над зямлёю,
Іх забрала вышыня —
Гэта быў пачатак дня.

## Толькі песні

Толькі песні могуць вечна жыць,
А людзей надоўга не хапае,
Ім не перайсці сляпой мяжы,
За якой так хораша спяваюць.

## Сон

Я прысніў каралеву, сумяшчальную толькі з сабой,
І на самым пачатку яна мне сказала на вуха,
Што жыве літаральна у кроку, але за мяжой,
І чакае, што я забягу яе казкі паслухаць.

Быццам бы паразуменне
дзень наступны нясе,
Але ж ты каралева,
ты не можаш быць як ўсе.

Я не надта і верыў ва ўласныя думкі вясной
І ў словы звычайныя веры не меў ад пачатку,
Проста ты каралева, сумяшчальная толькі з сабой,
Ты кахаеш мяне, але нeяк жа ж не па парадку.

## Верашчака

Каб зрабіць верашчаку з блінамі,
Шклянку піва і трошкі вады
Наліваем у посуд бляшаны
І каўбасы кідаем туды.

Хай кіпіць гэта ўсё, а тым часам,
Слёзы з твару абцершы рукой,
Мы паціху цыбульку падсмажым
І пасыпем пшанічнай мукой.

І патэльню з духмянаю масай,
Патрывожыўшы моцным агнём,
Заліваем булёнам каўбасным,
Воцат, цукар і соль дадаём.

Дробна кроім каўбасы у соус,
Трошкі перчым і тушым далей…
Вось і ўсё. Хутка будзе гатова —
Смаж бліны і глядзі весялей.

Вось і ўсё. Верашчака гатова.
Налівай і глядзі весялей.

## Каралева

Прамінулыя сны не збіраюцца ў будучы дзень,
Перапіўшы дажджу, іх па часе раскідвае жнівень,
А навокал жыццё, не здзіўляючы болей, ідзе,
І, нібыта, у ім нам нанова сустрэцца мажліва.

Ды ізноў ты не там, адкуль бачна бывае мяне,
Я хачу зразумець, для чаго мне патрэбны той
позірк,
Калі восень, як сон, пачалася ў мінулай вясне,
То няхай, нібы сон, непрыкметна мінаючы,
пройдзе.

Фантастычная ноч будзе з пятніцы на панядзелак,
Калі восень аддасць тое, што шкадавала вясна,
Калі бабіна лета адновіць былую надзею
І калі табе ўдасца мяне пры сустрэчы пазнаць.

## Водар

Як водар першага кахання
Далёкім рэхам цішыні
Народзіць новых прадчуванняў
І дасць магчымасць іх прысніць,
Так водар новага кахання
Далёкім рэхам першыні
Падорыць свежых прадчуванняў
І немагчымасць іх прысніць.

## Шукай мяне

Шукай мяне не толькі там, дзе хочаш бачыць,
Шукай мяне і там, дзе я звычайна ёсць.
Мы так аднолькава умеем не спаткацца,
Хоць кожны з нас пры гэтым марыць пра сваё.

Знайдзі мяне цяпер, калі я побач,
Сярод нябачных думак пра цябе,
Дзе асцярожна восень надыходзіць
Імгненнем, поўным здзіўленых надзей.

Знайдзі мяне хутчэй, каб болей не спяшацца
У непазбежнасць надыходзячага дня,
У даўняй мары апынуцца па-за часам
Ёсць безліч месца, бо пакуль там толькі я.

Знайдзі мяне па-за будзённым тлумам —
Я там жыву натомленай душой,
Хай будзе ўсё не так, як я прыдумаў,
Знайдзі мяне, як я цябе знайшоў.

## *ЗАБІРАЙ МАЁ ЛЕТА*

* * *

Я ведаю, што там, дзе заўтра будзе дзень,
Учора не знайшлі ні нас, ні нашых думак.
І вечар цішынёй у вочы не глядзеў,
І мроя не была ні добрай, ні разумнай.

Браў вецер за руку дзіцячую душу.
Я бачыў — іх сляды глыталі кіламетры.
Тлумачыць кожны крок душу не папрашу —
Няхай сабе ідуць, я давяраю ветру.

Вяртаннем назаўжды не вырашыць праблему,
Памкненню не знайсці ні месца, ні спакою,
Чаканне сапраўды хацела мець не тое,
Чым можа быць жыццё, калі мяняе тэму.

Я ведаю, што ты на заўтра не зважаеш,
Смакуючы фінал; я ж мару пра працяг,
Пра гэту далячынь, што быццам не чужая,
Але і не мая, бо я тут у гасцях.

* * *

Якою дарогай патрапіць у рай —
Пытанне шукае адказ.
Мы толькі збіраліся шлях выбіраць,
Калі ён ужо выбраў нас.

Займае дыханне, і словы маўчаць,
У марах суцэльны разлад,
Не хочацца верыць упартым вачам,
Што гэта дарога назад.

І кожны там быў, ды не кожны паспеў
У самым звычайным жыцці
Убачыць не тое, што бачыць прасцей,
А тое, што варта знайсці.

Якою дарогай вяртацца назад,
За межы бягучага дня?
Спыняецца час, каб усім паказаць,
Што тут яна толькі адна.

Дарога назад — гэта сон і падман,
Дзе дзівам прыпынены час,
Свой наканаваны здзяйсняючы план,
Жыццю прапаноўвае нас.

Займае дыханне, і словы маўчаць,
У мары змяняецца смак,
Здаецца, што можна яшчэ раз пачаць,
Мы толькі не ведаем як.

* * *

Далёка-далёка дзіцячыя сны,
Іх памяць надзейна умеюць хаваць
Межы галоўных пытанняў зямных,
Дзе кожнаму сніцца дарога свая.

Мы чуем і бачым па-іншаму зараз,
За часам, што лёсы у рэкі злівае, —
Адбіткі дзіцячых няздзейсненых мараў
Звіняць ва усмешках дарослых вачэй.

Дарослыя крокі блукаюць навокал.
Шукаючы выйсця, знаходзяць дарогу,
Знайшоўшы дарогу, знікаюць патроху
Шэрым туманам былога жыцця.

Далёка-далёка нябесныя сны
Нястомная памяць умее схаваць.
У межах галоўных пытанняў зямных
Не кожнаму дасца дарога свая.

* * *

Чые далоні затрымаюць вецер?
Не псуй пытанне пошукам адказу,
А лепш сама, як вецер, непрыкметна
Ляці кудысьці,
Толькі не адразу,
А пакружляй спачатку няулоўна
Вядомымі адной табе кругамі,
Спарадкуй дзеля будучага памяць,
І не спрабуй пакуль што асэнсоўваць
Мае пытанні.

* * *

Цёмна-шэрая ноч па халоднай зямлі
Чорным сэнсам і шчырым намёкам
Безліч лёсаў нікчэмных паспела разліць
Пад усмешкамі сонных аблокаў.

І дарогу на захад шукае усход,
І спрадвечную песню губляе,
А пасля нерашуча маўчыць ля варот,
За якімі ні пекла, ні раю.

Выпіла песню маю
Далеч бясконцых дарог,
Думкі вялі за парог,
Голас спяваў, покуль мог,
Даўнюю песню маю.

І прыходзіць пара стаць каля алтара,
Скіраваўшы да сонца малітву,
І стаяць, покуль свечы ушчэнт не згараць,
І на просты працяг не разлічваць.

Ці ж падманеш пачатак чарговага дня,
Перакрыўшы святло занавескай?
Пасівелую ноч бессэнсоўна спыняць,
Бо яе зачакалася вечнасць.

Выпіла песню маю
Далеч бясконцых дарог,
Думкі вялі за парог,
Голас спяваў, покуль мог,
Даўнюю песню маю.

* * *

Ліст залаты
Лета не помніць,
Вось і цяпла
Ўжо не стае.
Так, як заўсёды,
Так, як ад веку,
Восень наводзіць
Парадкі свае.

Ўсё, што вясна
Распачынала,
Змогуць дажджы
Змыць да зімы.
Так, як заўсёды,
Так, як адвеку,
Што будзе з марай —
Не ведаем мы.

Цемрай глядзіць
Заўтрашні ранак,
Зноў мы жывём
Праўдай адной.
Так, як заўсёды,
Так, як адвеку,
Цемра загіне
Наступнай вясной.

* * *

Зімовы вечар апускае мне на плечы
Сівы туман раптоўнай снежаньскай адлігі,
А незваротны час знікае непрыкметна
І не зважае на пачуцці і уздыхі.

Гады лятуць, пакуль гадзін ніхто не лічыць,
І, без увагі пакідаючы хвіліны,
Каму заўгодна я мінулае пазычу,
Каб толькі вырвацца з палону успамінаў.

Я буду заўтра забываць сваё учора,
Таму што сёння дзень заняты іншай справай.
Слядамі часу запаўняецца прастора —
Не будзе крокам болей шляху неўзабаве.

Зімовы вечар апускае мне на плечы
Сівы туман раптоўнай лютаўскай адлігі...

* * *

Шэрым днём мінула восень,
Белым сном прыйшла зіма.
Лічыць час, што гэта проста —
Дні складаць і адымаць.

Не спыніць і не прыспешыць —
Ён такі ва ўсе вякі, —
І пакрыўдзіць, і суцешыць,
І прыпомніць — ён такі!

* * *

Лагодным ліпеньскім дажджом
Вясёлку з неба змыла лета.
Жыццё маё ішло дагэтуль
Не пакідаючы слядоў.

Ішло жыццё маё пакуль
Не разбіраючы дарогі,
Ішло таму, што неслі ногі
Не да таго, хто крокі чуў.

Лагодным ліпеньскім дажджом
Вясёлку з неба змыла лета,
Мне паказаў напрамак вецер,
А я дарогу не знайшоў.

* * *

*Паводле «Besame тисно»*
*Кансуэлы Веласкес*

Раніца, смак пацалунка —
Помніш, як гэта калісьці было ўпершыню?
Хочацца заўтра прачнуцца
І, як учора, у вочы табе зазірнуць.

Памяць і мроя паціху яднаюцца,
Мары знаходзяць спакой,
Новыя дні як заўжды пачынаюцца,
Але ужо не з табой.

## На матыў «Прощание славянки» В. Агапкіна

Гукі марша бязлітасным сумам
Разрываюць душу на шматкі.
Ці ж маглі мы учора падумаць,
Што жыццё наша будзе такім?

Што сустрэнемся, каб развітацца,
Што ізноў будзеш ты не мая,
Што адвеку нягеглае шчасце
Нам у рукі не дасца ніяк.

Жыццё як рака,
Вясло у руках,
Плыві і шукай
У новы дзень кароткі шлях.

Ідзе за годам год,
Хоць і хочацца наадварот.
Забудзь пра бераг,
Зважай наперад —
На вір, на брод, на паварот.

Нас яднае агульная мара,
І дарозе не бачна канца,
Мы усё, што не зробіцца зараз,
Можам заўтра яшчэ раз пачаць.

Нашай веры не знойдзецца меры,
І душа не шукае спакой.
Каб не збочыць з дарогі уперад,
Я заўсёды плыву за табой.

Вясло ў руках,
Жыццё як рака,
Ў яе глыбіні
Паціху тонуць нашы дні.

* * *

Я жыву па-за словамі
Папулярнае мовы —
Зрэшты, справа не новая,
Як і гэныя словы.
Я жыву, не спяшаюся,
Я жыву як умею,
Каб было ў чым пакаяцца,
Памыляюся ў меру.
І ад рання да вечара,
Да гадзін ад імгненняў
У памкненні да вечнага...

...энтрапія, карацей кажучы.

* * *

Спякота зверху, спякота знізу,
Навокал ліпень, а ў галаве
Талковай думкі няма паблізу,
А неталковых адна ці дзве.

Спякота зверху, спякота знізу,
Навокал ліпень і вольны дзень,
Цябе так звыкла няма паблізу,
Ды я і сам невядома дзе.

Душы няўтульна у арганізме,
А вочы прагна шукаюць цень,
З дарогі збіўся я не наўмысна —
Ці засынаю, ці звар’яцеў.

Ратуе розум адно імгненне,
Калі на шчасце ці на бяду
Твая усмешка выходзіць з ценю
І я нарэшце за ёй іду.

* * *

На вуліцы быў панядзелак,
Душа ж вымагала суботы,
А дні мітусні не хацелі,
Марудна ішлі, неахвотна.

Было у жыцці няўтульна
Ад вечара, ночы і лета,
Пад раніцу думкі заснулі,
Аўторак прыйшоў непрыкметна.

Жыццё не па-роўнаму дзеліць —
То густа, то пуста, то смешна.
І што ў ім рабіў панядзелак?
Напэўна, усё перамешваў.

* * *

Хацелася слову парушыць маўчанне,
Хацелася небу сачыць за узлётам,
Хацелася скончыцца ўрэшце чаканню.
Хацелася ведаць, адкуль ты і хто ты.

Вясна перастала здавацца вясною,
І здзіўлены позірк блукаў паміж снамі,
А заўтра было недзе там, за табою,
А сёння было недзе тут, перад намі.

Твой дзень, панядзелак, спыніўся у часе,
Што так не бывае, ніхто не заўважыў.
Каб неяк пазбегнуць памылак уласных,
Пытанні знікаюць у нетрах адказаў.

Але панядзелак былыя надзеі
На «ёсць» і «няма» беззваротна падзеліць,
Хоць кожны па-свойму, але разумеем —
Заўсёды бывае не так, як хацелі.

Хацелася слову паслухаць маўчанне,
Хацелася небу паспець за узлётам,
Хацелася крочыць за межы чакання.
Хацелася ведаць, ці будзе субота.

* * *

Я стаміўся з табой сябраваць,
Выбачацца, чакаць, дараваць,
Разумець, адкладаць, пераносіць…
Да таго ж пачынаецца восень —
Незваротна знікае цяпло.
Падуладны яго недахопу,
Паступова марнее мой клопат
Дбаць пра тое, чаго не было.

* * *

Я паўсюль шукаў нагоды, каб натрапіць
на прыгоды,
Адкладаў на потым справы і пра заўтрае не дбаў,
Марыў зробіцца вядомым і, калі выходзіў з дому,
Ад пачатку па парадку словы простыя спяваў:

Сонца ўстала, сонца села, птушкі ў вырай паляцелі,
Бо не любяць птушкі восень, гэтаксама як і я.
Я па-свойму адлятаю, хоць і крылля не хапае, —
Знізу доля, ўверсе воля — вабіць тым, што нічыя.

Сонца грэе, сонца свеціць, разганяе хмары вецер,
Падаецца, што ўдаецца спадзяванне апраўдаць.
Сёння, заўтра і учора у хвілінах непаўторных
Так і жыў бы, толькі нешта пачынае халадаць.

Сонца свеціць, ды не грэе, не збываюцца надзеі,
Можа, марыў не пра тое, ці не гэтага жадаў,
Але ўсё яно часова і міне, няма размовы,
Толькі ж хочацца пры гэтым не згубіцца у гадах.

* * *

Ты пафарбавала маё неба
Ў колеры надзеі і чакання,
Стала невядомае патрэбным,
Згінулі адказы на пытанні.

Навучыўся быць бязважкім вечар,
Каб дадаць спакою у размову…
Восень падыходзіць непрыкметна,
Ды нашто на восень траціць словы?

Раніца, як можа, грэе вецер,
Абуджае сподзеў мар наіўных.
Час вядзе у восень непрыкметна.
Я ж хачу, каб ён спыніўся ў жніўні.

* * *

У маім неналаджаным побыце
Не працуе званок на дзвярах,
Не хапае усмешак і позіркаў,
Асабліва па вечарах.

Тут далёкія ад дасканаласці
Ходзяць думкі за межы кута,
І усё, што у іх адбіваецца,
Разумеецца неяк не так.

Тут па-свойму утульна і хораша,
Можа, ў нечым не горш, чым ва ўсіх,
Хоць часамі і іншага хочацца —
Можа, ў госці цябе запрасіць?

* * *

Цішыня бяздоннай вышыні.
Думкам не знайсці належных словаў.
Позіркаў шчаслівых прамяні
Зблытваюцца ў новую размову.

Вось ужо і межаў не відно —
Дзве душы з'яднаныя палётам.
Ёсць каханне, на дваіх адно,
Што пасля — пакуль што неістотна.

Я хачу падараваць табе світанак,
З цёплых промняў сонечных сатканы.
Пад усмешку з пахам ранішняе кавы
Паўтараць тваё імя, як заклінанне.

І ляцець туды, дзе зоры нас чакаюць,
Не зважаючы на хмары, дождж і вецер,
І адчуць, як разгараецца каханне
З разумення, што ты проста ёсць на свеце.

Раскажы пра сёлетнія сны,
Як яны сабой здзяйсняюць мроі,
Калі раптам хочацца вясны,
Лістапад становіцца вясною.

І далей ужо і ты, і я
Аддаём сябе на волю часу.
Неістотна дзе, калі і як,
Важна толькі, каб заўсёды разам.

* * *

1

Як разумееш ты, што я хачу сказаць,
Тады навошта нам наогул словы —
Няхай у думках адбываецца размова,
Няхай у позірках адказы прагучаць.

2

Глядзіць пытанне на цябе з маіх вачэй,
Ты робіш выгляд кшталту: «Што? Не чую!»
Я так і ведаў, што з табой не засумуеш...
Усё ж са словамі, здаецца мне, прасцей.

* * *

Не пройдзе шлях Ваш там, дзе зараз я
Свае сляды да выхаду рыхтую,
Дзе галава ссівелая мая
Спакою яшчэ доўга не адчуе.

І будзе дом Ваш заўтра на зямлі,
Якую абмінае бездарожжа,
І не са мной Вам спадзевы дзяліць —
Я ўмею толькі складваць альбо множыць.

І будзе лета сілу набіраць,
На драбязу увагі не звяртаючы,
Каб знікнуць у зімовых вечарах
І жыць там, больш нікуды не знікаючы.

## Галава на плячы

Перайдзі мой сон уздоўж,
А пасля перайдзі яго ўпоперак,
Не пакінь, як удасца, слядоў
Па-за межамі новага сну.
Калі зможаш паспець давідна,
Забяжы на хвілінку ізноў,
Каб пабачыць, як робяцца попелам
Рэшткі колішніх сноў.

* * *

Фарбуюць вочы ночы цішыню,
Сон не дае жаданага спакою,
Бо, як заўсёды, я не тое сню,
Каб апасля і думаць не пра тое.

Сівее золак звыклага жыцця,
І вочы рання на мяжы з усмешкай,
Напэўна, спадзяюцца на працяг…
Ну, карацей, звані, калі прачнешся :)

## Паводле «Los Bilbilicos» Psalteria

Вакол спяваюць салаўі,
Каханнем поўняць слых.
Празрыстых гукаў чысціні
Нам хопіць на дваіх.

І кветкі, тоячы уздых,
Цвітуць табе і мне,
Але пакуль належыш ты
Далёкай старане.

Жыццё заблытала шляхі
Вясноваю парой,
Ды веру я — з краёў чужых
Прыедзеш ты за мной.

* * *

Я казаў табе тысячу слоў
Самых розных, вясёлых і сумных.
Час разгублена ўперад ішоў,
Дні знікалі без лішняга шуму.
Скіраваўшы свой позірк назад,
Я міжволі ўпадаю у скруху,
Бо ні разу табе не сказаў
Аднаго — што люблю цябе слухаць.

* * *

Кульгавая мара складае гадзіны з імгненняў
пустых.
Зірнуўшы навокал, я трохі шкадую, што побач
не ты.

## Паводле «А напоследок я скажу» Б. Ахмадулінай

Апошніх словаў марны шэпт:
Бывай, кахаць ужо не трэба.
Знікае свет,
За ім услед
І цемру забірае неба.
Як ты кахаў?
Ты наклікаў
Няіснае
На нашы мары.
Ты так кахаў,
Як уцякаў,
Хаця цябе я не трымала.

Апошніх словаў марны шэпт...

Пачуццям думак не стае,
Пяшчотны сэнс згубілі рукі,
Цябе не бачаць сны мае,
Знікаюць пахі, моўкнуць гукі.

Апошніх словаў марны шэпт:
Бывай, кахаць ужо не трэба.
Знікае свет,
За ім услед
І цемру забірае неба.

Апошніх словаў марны шэпт...

* * *

У цішы старой дубровы я сустрэўся з іншым днём,
Знікаў яго пачатак там, дзе абрываўся сон.
І ляжала ценем памяць на усіх маіх шляхах,
Але запелі птушкі, каб ішоў цябе шукаць.

Твой цень казаў маім вачам, што трэба
не здзіўляцца,
Калі зязюля раптам замаўчыць.
Яна, з нажытых мной гадоў пакінуўшы
сямнаццаць,
Усе, што будуць апасля, дазволіць не лічыць.

У цішы старой капліцы чую я, як ты маўчыш,
Як не куе зязюля і хвіліна не ляціць,
Як забыўся звыклы клопат даганяць мае сляды,
Як цень тваёй усмешкі зноў хавае мой уздых.

За імгненне да кахання цень спыніўся на мяжы,
Каб нагадаць мінуламу, дзе след яго ляжыць.
Ад чакання да памкнення крок дарогу перайшоў,
І я адчуў, як розум мой яднаецца з душой.

* * *

Там, дзе калісьці было каханне,
Мой шлях працягу знайсці не змог,
У неадольны палон пытанняў
Жыццё вяртала з любых дарог.
Па-за гадамі, па-за шляхамі
Старыя думкі на новы лад,
Каго шукаюць, каго чакаюць
І не пускаюць ісці назад.

Не за гарамі, не за марамі
Хавае памяць мінулы дзень.
Усё былое заўсёды з намі,
На пару з ценем услед ідзе.
Па-за гадамі, па-за шляхамі
Старыя думкі на новы лад.
Каго шукаюць, каго чакаюць
І не пускаюць ісці назад.

Нам не хапае утульных казак
У звыклай плыні бягучых дзён,
Замест пытанняў адны адказы,
А рэшткі мрояў хавае сон.
Па-за гадамі, па-за шляхамі
Старыя думкі на новы лад.
Каго шукаюць, каго чакаюць
І не пускаюць ісці назад.

* * *

Жыццё нам дорыць байкі з казкамі,
Жыццё нам не сябе паказвае.

Жыццё нас зводзіць у кампаніі,
Жыццё разводзіць нас з каханымі,
Жыццё хаваецца за казкамі
І не усім сябе паказвае.

Па-за жыццём памкненні множацца,
Іх просты сэнс належыць кожнаму,
Але звычайна недасяжны,
Бо не усім сябе пакажа.

Ты па жыцці ідзеш шукаючы,
Па-за жыццём ты усміхаешся.

* * *

*Р. С.*

Было не так учора на зямлі —
Другія кветкі у другіх букетах,
Шляхі не тыя не туды вялі,
Мы думалі не тое не пра гэта.

Уражвала і цешыла жыццё,
Здавалася — яно не мае краю,
Галоўная сустрэча з небыццём
Яшчэ далёка, і не нас чакае.

Але не роўны маюць людзі лёс,
Бог бачыць самых лепшых адмыслова,
Бывае, што яны у бок нябёс
Сыходзяць часам не своечасова.

Мінае час, і нашыя гады
Так непазбежна колькасць набіраюць,
А хтосьці, назаўсёды малады,
З нязнаных даляў моўчкі пазірае.

## Паводле «Тёмная ноч» В. Агатава

Шлях да цябе па дарогах паўсюднай вайны,
Дзе не там пачынаюцца дні у разбураных лёсах.
Шлях да цябе пад наглядам сівой цішыні
Па кварталах пустых гарадоў, па ваколіцах вёсак.

Цемрай начной кулі слепа шукаюць людзей,
Працінаючы вецер і дождж, як пасланцы нябыту.
Цемрай начной мроі робяць нічым далячынь,
Абяцаюць сустрэчу з табой і не могуць не збыцца.

Хочацца мне у пяшчотных вачах патануць,
Лёс свой знайсці, зазірнуўшы ў іх глыбіні,
Веру, што ты дапаможаш адолець вайну,
І, пакуль гэта вера са мной, я жыцця не пакіну.

Я на шляху — я не збочу, я не павярну,
Шлях да цябе — выхад мой з небыцця адзіны.
Веру, што ты дапаможаш адолець вайну
І, пакуль гэта вера са мной, я жыцця не пакіну.

* * *

Казалі нам з усіх бакоў:
— Глядзіце — вас не стала, —
А мы спявалі пра любоў
Да бульбы і да сала.
Кавалак лепшы для гасцей,
Прынамсі, кожны меў,
Але ж, каб столькі іх было,
Наўрад ці хто хацеў.

Тут многа нас такіх,
Але не кажам мы услых,
Як многа нас такіх.

Тым, хто казаў, што нас няма,
Мы не маглі паверыць —
А хто ж тады іх сустракаў
І адчыняў ім дзверы?
Хто іх пускаў на свой парог
І частаваў як мог?
Хто ім на карак апасля
Узлезці дапамог?

Тутэйшы чалавек,
Адвеку тут і тут навек
Тутэйшы чалавек.

Пакуль сюды буслы лятуць,
Былі, і ёсць, і будуць
Заўсёды тут — мой родны кут —
Палі, лясы і людзі.
І, што б там хто ні гаварыў,
Мы тутака ўвесь час.
І не настане той пары,
Калі не будзе нас.

І не настане той пары,
Калі не будзе нас.

* * *

На крок мы наблізілі неба,
Знайшоўшы сябе у жыцці,
Каб незразумелым суседзям
Спакойна грахі адпусціць.
Даніну цярпенню сплаціўшы,
Пазбыцца няпэўных надзей,
Каб холад цяплей паражыўся,
На ганак выходзіць радзей.

Утульнае пекла ілюзій
Шануе прасторы свае,
І людзі, нібыта, як людзі —
Чагосьці усім не стае.
Для шчасця не трэба нагоды,
А толькі пачатак і час,
Паціху выходзячы з моды,
Яно не сумуе без нас.

Ратуе усмешка спагады
Ад марнай дарогі назад.
Бязлітасны смак лістапада
Плыве паўз натомлены сад,
Дзе яблыкі адбранзавелі,
Галіны згубілі лісты.
У свет нечаканых завеяў
Не хочаш, а трэба ісці.

* * *

Нам зорак не відно за сівізною хмараў,
Вечар прытуліўся да зямлі,
І мокрай птушкі след закрэсліў успамін,
Каб мару з непагодай падзяліць.

Заўтра у сонечным святле
Здзіўленне будзе ведаць новы шлях,
І варта захацець трымацца надалей
Кірунку, што адкрыецца пасля.

І варта захацець ніяк не заўважаць
Марныя дарожныя слупы,
А калі раптам дзе сустрэнецца мяжа,
Спакойна за яе пераступіць.

Ці ж зоры не гараць за таўшчынёю хмараў,
Што вечар нахіляюць да зямлі,
За цёмнае вакно я доўга пазіраў
Праз сон, што неба з птушкай падзяліў.

Заўтра ў сонечным святле
Здзіўленне знойдзе новае жытло.
І іншае жыццё пакажа нам далей,
Як мара ставіць птушку на крыло.

## *Канстанцін Прэслаўскі (IX–X стст.)*

### Проглас да Евангелля

Да святога Евангелля тут прадмова:
Згодна з даўнім абяцаннем ад прарокаў,
Што Хрыстос ідзе да нас збіраць народы,
Асвятляючы Сабой увесь Сусвет,
Прыпадае на наш век Яго сустрэча.

І сляпыя неўзабаве будуць бачыць,
І глухія слова кніжнае пачуюць.
Ў гэтым свеце мусіць Бога ведаць кожны.
І таму кажу я — слухайце, славяне —
Гэты дар усім належыць з Божай ласкі.

Дар Божы тым, хто прагне толькі праўды,
Дар Божы тым, чыя душа не згіне
І у якой заўжды жыве удзячнасць.
І гэта Марк, Лукаш, Мацвей і Ян
Казалі ўсім краям і іх народам:

Хто душу яднае з прыгажосцю,
Хто ўмее шчырым сэрцам усміхнуцца,
Каб абмінуць і грэх, і цемрашальства,
Ды каб паўстаць над паўсядзённым смеццем
І каб ісці у райскія прасторы,

Каб з агнём, што нішчыць грэшных, не сустрэцца,
Каб на мудрасць кіраваць уласны розум,
Гэта слова для цябе, народ славянскі,
Богам дадзена на ўсе твае часы
Гадаваць спакой у светлых душах.

Уладарыць слова розумам і сэрцам,
І вядзе яно да спасціжэння Бога.
Як няможна быць у радасці без свету,
Што дае магчымасць кожнаму пабачыць
Дасканаласць, створаную Богам,

Так душа, што ў словы літар не складала,
Не спасцігне сэнсу Божага закона,
Што у Запавеце захаваны
І вароты Раю адчыняе.
Так і той, хто грому не пачуе,

Як пакорліва паўстане перад Богам?
Не адчуўшы водар той, што маюць кветкі,
Як аддасць належнае здзіўленню?
Калі вусны не ўспрымаюць болей слодыч,
Вельмі проста з камянём зраўняцца.

Так душы няўтульна непісьменнай,
Бо жыццё яна не дорыць целу,
Бессэнсоўным толькі поўніць існаваннем.
Мы ж гатовыя прыйсці на дапамогу
Тым, хто хоча у жыцці сваім пазбегнуць

Развіцця свайго грахоўнага пачатку.
Бо калі пачуе розум непісьменны
Слова Божае, нібы чужую мову,
Толькі звон спазнае ён, і больш нічога.
Вам усім навука ад Святога Паўла:

Перш за ўсё, калі узносіцца малітва,
Дастаткова колькі словаў, каб данесці
Знічкі сэнсу ў невыказныя вышыні,
А не ў безлічы выслоўяў адмысловых
Пажаданае згубіць паразуменне.

І таму, хто не за мудрасцю імкнецца,
Не знайсці у свеце ясны накірунак,
Не спасцігшы моцы праведнага слова,
А ягоныя здабыткі — тло і попел —
Не ўратуюць у апошнюю хвіліну.

Прагне цела кожны дзень здаровай ежы,
А душа не можа жыць, як не пачуе
Слова Божага з надзённым запаветам,
Каб схаваць яго у сэрца трапяткое.
Дык паслухайце ж яшчэ адну навуку:

Хто расце ў бязмежжы Боскага Закона
І другім жыцця падобнага жадае,
Добра ведае адвечнай праўды сутнасць —
Тое зерне, што патрапіла у глебу,
Атрымаць павінна дождж. Таксама ж сэрца:

Божых літараў дажджы яно прымае.
І прыходзяць яму словы ураджаем,
Каб у прыпавесці іх складаць і кнігі,
Без якіх народ жыве у цемры.
Самы моцны голас хто пачуе,

Нават калі ён у розных мовах? Прагучыць
Ён не мацней мінулага імгнення,
І толькі ў кнізе атрымае сілу.
Краіна без пісьменства — не краіна,
Народ, які не мае кнігі, — не народ.

Як без зброі будзе войска несапраўдным,
Так і душа неабазнаная слабая
Не знойдзе спосаб ратавацца ад праклёну,
А калі кляты вораг ужо блізка
І ў бойцы лютай трэба толькі перамога,

Хай розум прыадчыніць тыя дзверы,
Якімі ў душы вашы прыйдзе зброя,
Каваная з непераможных літар,
Каб змусіць д'ябла развітацца з галавою.
Апорай быць спасцігламу пісьменства.

А праз Хрыста засвоеная мудрасць
Асвеціць розум і душу ўмацуе.
І будзе з вамі слова перамогі —
Апосталы святыя і прарокі
Яго трымаюць ворагу на згубу.

Ахвяруйце ж перамогу гэту Богу,
Уздымайцеся над тленам і знішчэннем,
Згіне грэх, нібыта сон чароўным раннем.
І упэўнена устаньце перад Панам,
Каб без сораму глядзець Яму у вочы.

Праваруч вам быць пры Божым троне,
Калі будзе Ён судзіць усе народы.
І з анёламі у радасці спрадвечнай
Вечнай літасці Яго хвалу узнесці
Словам кніжным, праспяваным шчырым сэрцам.

У бязмежжы чалавекалюбства
Апявайце веліч Божай славы:
Гонар і хвала Айцу і Сыну,
паяднаным у Вялікай Тройцы
Са Святым і Ўсюдыісным Духам,
Ад усіх, на вечныя вякі.

Амін.

# 2017

## *НОВЫЯ ВЕРШЫ*

* * *

Ў абдоймы цішыні вятры не залятаюць,
Мы разам бачым сон, якім здзіўляе ноч,
З нязвыклай цемнаты, бязлітасна чужая,
Што блытала сляды і не дайшла сюды.

Што клікнула здалёк, здзівіла і прапала,
Набіўшы брыдкіх плям у мройным забыцці,
І дрэнна, што ужо вядомай стала далеч,
І добра, што пакуль магчыма не ісці.

* * *

Блукаем да часу між пеклам і раем,
Шукаем, губляючы час,
Праз тыя дарогі, што мы выбіраем,
Дарогу, што выбрала нас.

Зацята не верым яе паваротам,
Павольна губляючы рытм,
Стамляецца лёс без належнай ахвоты
Нам нашы памылкі дарыць.

Здзіўлення не помнім, у казку не верым,
Мінулае раздаючы,
Здаўна пакідаем сляды на паперы,
Якая цярпліва маўчыць.

Сучаснасці прагне амбітная доля,
Скідае аркуш пад нагу,
І далей без згоды яе і дазволу
Я кроку зрабіць не магу.

Чаму і на колькі, куды і навошта?
Ці трэба камусьці адказ,
Калі разуменне прыходзіць, што проста
Дарога не выбрала нас?

* * *

Давай будзем думаць пра гэтае заўтра,
Давай будзем сёння не помніць пачатак,
Хай п’еса ідзе, хай здзіўляецца аўтар,
Хай сутнасць павольна змяняецца ў часе.

* * *

Час ішоў, магчымасці знікалі,
Небу сны вярталі вечары,
Сумавалі байкі без маралі
І фінал прасілі паўтарыць.

Так было, што свет здаваўся вечным,
А спакой развагі не губляў,
І вялі чаканні да сустрэчаў,
Сэнс надзейна бачыўся здаля.

Так было, што дзень, як ёсць апошні,
Сваё месца проста не шукаў.
І здзіўленне — колішні памочнік —
Пазбаўляла сілы ў руках.

Але ўсё часова, дзякуй Богу,
І мінае ўсё, як ні круці, —
Ты калі выходзіў на дарогу,
То дакуль па ёй хацеў ісці?

* * *

Адной рукой кіруючы няспынна,
Другою правяраючы кішэні,
Рабіла з мяне гопніка краіна,
Душа ж хацела іншага рашэння.

Свядомасці куды было падзецца?
Налева крок, направа крок — і багна.
Мудрэй за ўсё — не йсці, а адсядзецца,
Адно — душа ўгару сарвацца прагне.

Забыць, што варта быць самім сабою,
Утульна, як паспаць пасля абеда.
Ёсць праца ад запою да запою,
І ёсць магчымасць Турцыю наведаць.

Чаму не жыць пры гэтакім раскладзе,
Не горш за іншых, без праблем істотных,
І напляваць на сум у лістападзе,
І разлюбіць гаючую самоту.

Аддаць краіне ўсе даўгі нарэшце,
Якія яна нам напрызначала,
І апынуцца у тым самым месцы,
Якога у аб'ёме вельмі мала.

Ні ўдоўж, ні ўшыркі, ні назад, ні ўперад.
Сядзець і для турбот не мець прычыны.
Каб шчасце я спазнаў такою мерай,
Рабіла з мяне гопніка краіна.

* * *

Усё галоўнае прыходзіць нечакана,
Пасля, бывае, і не ўгледзіш, як міне,
І асабліва гэта тычыцца кахання,
Хоць кожны думае — ці ж гэта пра мяне!

І сівізна, і ладны вопыт за плячыма,
Здзівіць нялёгка і збянтэжыць не прасцей,
Ды не сказаць, каб гэта надта навучыла
Прымаць жаданае і правільна хацець.

Пытанні мкнуцца узнікаць, ды ім няёмка,
А да таго ж нібыта час не настае,
І мы з вантробамі надзеям аддаёмся,
Прытым чужыя разглядаем як свае.

Няма пытанняў — дык адкуль узяць адказы,
Калі размовы неузніклыя маўчаць,
Магчыма заўтра, але хочацца адразу —
Тут сама тое — з нечаканага пачаць.

* * *

Усё галоўнае прыходзіць нечакана,
Пасля, бывае, не заўважыш як міне,
Я рыхтаваўся да апошняга кахання
І перачытваў напісанае раней.

* * *

Калі б не пачыналася зіма,
Я б не знайшоў сябе у вашым доме,
Усё было б напэўна па-другому,
Калі б не пачыналася зіма.

І драбязу асенняга цяпла
Я размяніць хацеў усю, дашчэнту,
Але зіма, пахерыўшы акцэнты,
Прапанаваць нічога не змагла.

Тады жыццё пайшло на новы лад,
Другія сэнсы сталі пераважваць,
Прычыне лёс застацца недасяжнай,
Зіма ж нагодай толькі і была.

* * *

Псуюць жыццё бясконцыя прыкметы,
Тлумачачы, чаму так не шанцуе,
А рэшткі мар, што полем гоніць вецер,
Іх тлумачэнні ўвогуле не чуюць.

Няма вясны, вясна была учора,
Яна яшчэ хацела бачыць змены,
Ляціць жыццё зусім не бездакорна
Халоднай, шэрай раніцай асенняй.

Прыкметы ж, забываючы збывацца,
Заводзяць сэнс у новае балота,
І нават ветру не даюць памацаць,
Якое дзіва нас чакае потым.

Хутчэй за ўсё, не так плануе аўтар,
Хутчэй за ўсё, мы самі нішчым цуды.
Няма зімы, зіму чакаем заўтра,
І невядома, як з ёй ладзіць будзем.

* * *

Пра дзень, які так хочацца забыць.
Ці варта думаць, сніць, спяваць і помніць?
Якая розніца — ён белы быў ці чорны,
Той дзень, які так хочацца забыць?

Быў дзень, якога памятаць не след,
Былі там людцы, што не мелі сілы,
Былі і тыя, што яго рабілі.
Я бачыў тых, каго яны любілі,
У дзень, якога памятаць не след.

Той дзень, які не варта ўспамінаць,
Забраў сабе і сподзевы і мары,
І лоўка так зрабіў куты з абшараў,
Той дзень, які не варта ўспамінаць.

Быў дзень, які не трэба паўтараць,
Была вайна замест адэквата,
Не кожны верыў у яе пачатак.
Я ж помню, як згарэла мая хата
У дзень, які не трэба паўтараць.

* * *

Празрыстыя людзі паўсюдна шчыруюць,
Сляды пакідаюць наўкол —
Іх вочы убачаць, іх вушы пачуюць.
Іх рукі абернуць на дол.

Празрыстыя людзі празрыстыя словы
Празрыста выказваюць спрэс.
Бянтэжыць разумных, але беспантовых
Нягеглы вербальны працэс.

Схаваўшы ад іншых сваё,
Празрыстыя людзі чужому не вераць,
Празрыстыя людзі пладзяцца без меры.

* * *

Межам стылю акрэсліцца стала значна цяжэй,
Канчаткова заблытаўся выбар новых дарог,
Хто б у гэтых рэаліях зразумець дапамог
Прынцыповую розніцу паміж мачо і чмо.

Я надзвычай збянтэжаны тым, што бачу вакол.
І даўней так здаралася, а цяпер пагатоў,
За абцасы чапляецца па дарозе дамоў
Невялікая розніца паміж мачо і чмо.

* * *

Ад імгненняў да вечнасці карацеюць шляхі,
На аскепках адметнасці не губляецца сутнасць,
І далёка не сэнс робіць веру магутнай —
Ён адно што тлумачыць былыя грахі.

Развітайся з жаданнямі запаволіць хаду,
Не разлічвай на даўняе і прывычнае глупства,
Хай цябе не хвалююць ні плён, ні наступствы,
Думай болей пра шлях, пакуль ногі ідуць.

# Змест

Пясняр
*(Замест прадмовы). Р. Барадулін* .................... 3

НАСПАДЗЯВАНАЕ

**Спроба ісці па расе**

* * * Час не чакае — мне ісці... .................... 5
* * * Хоць думкі люты вецер... .................... 5
* * * Па выніках размовы... .................... 6
Рэчаіснасць .................... 6
Сталасць .................... 7
Цэлы час *(Імгненне)* .................... 7
* * * Дапамажыце раскавацца... .................... 8
Эпізод .................... 8
* * * Я супраць узнятых рук... .................... 8
Жаданні .................... 9
Зацятасць .................... 9
Холад .................... 10
Гісторыя .................... 10
* * * Старога неба больш няма... .................... 11
Рэха .................... 11
* * * Падыходзіць ціха ззаду... .................... 12
* * * Што сніцца катам па начах?.. .................... 12
Мана .................... 13
Словы .................... 14
Суадносіны .................... 15
Пытанне .................... 16
Эміграцыя .................... 16
* * * Проста жыць паміж лужын і сцюж... .................... 16
* * * Старая плошча. Дрэвы. Брук... .................... 17
* * * Горад мой, вораг мой... .................... 18
* * * Хто, хоць нічога не знайшоў... .................... 18

**Табун**

Спадзяванне на зіму .................... 19
Акалічнасць .................... 19

Дым ........................................................................ 20
Конь ........................................................................ 20
Раніца святочнага дня ........................................ 21
Суніцы ...................................................................... 22
Абуджэнне................................................................ 23
* * * Так глыбока ўначы... ..................................... 24
Лета ........................................................................ 25
* * * Быў ліпень... ..................................................... 26
* * * Вечарамі шукаецца месца... ........................ 26

**Струны**

* * * Ну вось ужо і ёсць нам... ................................ 27
* * * Шмат памыляўся, ведаю... .......................... 28
* * * Размаўляць з прыгажуняю цяжка... ............ 28
* * * З кожным слоўцам... ..................................... 29
Голас ....................................................................... 29
* * * Перастань мне, калі ласка, сніцца... ............ 30
* * * Перастань мне сніцца, калі ласка... ............ 30
* * * Я трымаў сваё шчасце ў руках... ................... 31
* * * Я памыляўся, але не шкадую... ...................... 31
* * * Ты, што і побач такая далёкая... ................... 32
Адвечнае................................................................. 32
Самота..................................................................... 33
* * * Пасля таго, як вецер перасціх... ................... 33
* * * Крок насустрач — такая дробязь... ............... 34
* * * Я зраблю табе ўсе, што хочаш... ................... 34
* * * Мне вельмі хочацца, каб ты... ...................... 35
* * * Шэры хмары разганю... .................................. 35
* * * Мне з табою бліжэй да неба... ...................... 36

**Знешняе**

* * * Можна быць хворым... ................................... 37
* * * Пад зоркамі хадзілі... ..................................... 38
* * * Куды дзяецца след... ...................................... 38
* * * Так цяжка разумець... .................................... 39
* * * Ты чый?.. ............................................................ 39
* * * Ці я сплю, ці бачу гэта яўна... ...................... 40
* * * Будоўля — наша жыццё... ............................. 40

* * * Зусім нямнога давялося нам... ........................... 41
Аптымізм........................................................................ 41
* * * А вы пачэсныя... ................................................ 42
* * * У свеце спакою нямашака... ................................ 42
* * * З ваўкамі жыць... ................................................ 43
* * * І што ж гэта робіцца?.. ......................................... 43
* * * Ёсць словы... ...................................................... 44
* * * Сягоння свята... .................................................. 45
* * * Калі жыццё будуеш на былым... ........................... 45
* * * Сонца лісце фарбуе па-свойму... .......................... 46
* * * Ну што вы, што вы... ............................................ 46
* * * Звяртаюся да цябе... ............................................ 47
Летняе купанне ............................................................. 48
* * * Са шкадаваннем мы губляем тое... ...................... 48
* * * І новая восень... .................................................. 49

**Рэшткі**

* * * Няма нам справы... ............................................. 50
* * * Паветра бабінага лета... ........................................ 51
* * * Возера, сіняе вока... ............................................. 52
* * * Адбіткі недасягнутае мары... ................................ 53
* * * Патухлы позірк... .................................................. 54

## ВЕЧАРАМІ ШУКАНАЕ

**Дадаткі**

* * * Неба зоркамі міргала... .......................................... 55
* * * Многія з нас бачылі... ........................................... 56
Дыпціх .......................................................................... 57
* * * Бывае... ................................................................ 58
* * * Тут пануюць лапухі... ............................................ 60
* * * Тыя ісціны для вас ледзь-ледзь... ........................... 60
* * * Нядаўна жыў жа... ................................................. 61
* * * У нешматлікіх забавах... ........................................ 61

**Працяг**

* * * Урокі несапраўднае вясны... .................................. 62
* * * Як толькі вецер раніцу прынёс... ............................ 63
* * * Не разумею клопату вады... ................................... 64

* * * Так жыццё папераблытала шляхі... .................. 65
* * * Мне сснілася... .............................................. 66
* * * Цямнее і гусцее... .......................................... 67
* * * Як у птушкі... ................................................ 67
* * * Ты мне пісала... .............................................. 68
* * * Зямля, Лі Фан, вялікая такая... ........................ 69
* * * А снег шукае месца на зямлі... ......................... 69

**Пырскі**

* * * Ты помніш мае словы з тых часоў... ................. 70
* * * Маё сэрца душу тваю мерыла... ......................... 70
Абуджэнне..................................................................... 71
* * * Ахвяруючы мазгамі... ..................................... 71
* * * Шлях да сябе праз снег... ................................. 72
* * * Што бывае, чаго не бывае... ............................. 72
* * * Калі пачацца — ведае зіма... ........................... 72
* * * У адмарозкаў логіка свая... .............................. 73
* * * Зіма, вясна... ................................................. 73
* * * Паэт, нават самы сапраўдны... ......................... 73
* * * Вольнаму воля... ............................................. 74
* * * Не заўважайце лепей вы... ............................... 74
* * * Калі няма куды схавацца... ............................. 74
* * * Маю ўсё — дом мой поўная міса... .................... 75
* * * Ужо. Канешне. Так яно і ёсць... ........................ 75
* * * Сонца бліщчыць, ажно слепіць... ...................... 75
* * * Чым за розумам ганяцца... ............................... 76
* * * Восеньскія беглі завіхрэнні... .......................... 76
* * * Я ў тэлефоне-аўтамаце... ................................ 76
* * * Вочы смелыя, незразумелыя... .......................... 76
* * * З кожным днём... ............................................. 77
* * * Чыстае-чыстае неба... ...................................... 77
Хайку ........................................................................... 77

**Песні**

Навіна .......................................................................... 78
Шлях............................................................................. 79
Хада.............................................................................. 80
Адчуванне .................................................................... 81

Карова ........................................................ 82
Наследаванне Ясеніну ........................................ 83
Папуасы ....................................................... 84
Марш .......................................................... 86
Сабака ........................................................ 87
Гаспадарка .................................................... 89
Мне стала кепска .............................................. 90
Парад ......................................................... 91
Бульдозер ..................................................... 92
Жаночая ....................................................... 93
Слова ......................................................... 94
Рука .......................................................... 95
Туман ......................................................... 96
Гаспадыня ..................................................... 96
Цяпло ......................................................... 98
Вясна ......................................................... 99
Позірк ........................................................ 100
Імя ........................................................... 101
Дом ........................................................... 102
Калыханка ..................................................... 103
Злодзей ....................................................... 104
Малітва ....................................................... 105
Развітанне .................................................... 106
Ад вачэй зялёных .............................................. 107
Туманы ........................................................ 108
Песня ......................................................... 109
Новы круг ..................................................... 110
Раскіданы час ................................................. 111
Цішыня ........................................................ 112
Човен ......................................................... 113
Сон забітага навабранца ....................................... 114
Марыльцы ...................................................... 115
Дзень ......................................................... 116
Мітусня ....................................................... 117
Завея ......................................................... 118
Дзве душы ..................................................... 118
Сонца ......................................................... 120

Надзея........................................................................ 121
Запаветы...................................................................... 122
Родны край .................................................................. 123
Восень ........................................................................ 124
Кастрычнік................................................................... 125
Лістапад....................................................................... 126
Вада ........................................................................... 127
Дождж ........................................................................ 128
Дым ............................................................................ 129
Блукаю........................................................................ 130
Пошукі адказаў........................................................... 131
Прыйдзі, мой каханы ................................................. 132
Будзе дождж ............................................................... 133
Ты прымусіла... ........................................................... 134
Я ведаю ....................................................................... 135
Я ішоў да цябе............................................................. 136
Раскажы....................................................................... 137
Іншым часам................................................................ 138
У гэтых вачах .............................................................. 139
Пераажыты дзень ....................................................... 140
Пад уздых каганца ...................................................... 141
* * * Проста — убачыць неба... .................................. 142
* * * Небасхіл у хмарах цяжкіх... ............................... 143
* * * Вось так сядзець, паліць і бачыць дождж... ...... 144
* * * Чаканне раніцы бяссоннымі начамі... ............... 144
* * * Воблака становіцца вадой... .............................. 145
* * * Жыццё непрыкметна мінае... ............................ 145
* * * Усе, каго разгубляў, снуючы ў жыцці... ............ 146
* * * Я паўсюдна шукаў твае вочы... .......................... 146
* * * Паклікаў мяне вецер, а я... ................................ 147
* * * Вясна прыйшла, такое ўсплыла... ...................... 147
* * * У жыццё складаюцца бясконцыя... ................... 148
* * * У нас няшмат на гэтым свеце часу... ................. 148
* * * Дзень раптоўна канчаецца вечарам... ............... 149
* * * Цябе няма ні ў вечары, ні ў ранку... ................. 149
* * * Гэты вечар так паволі пачынаўся... ................... 150
* * * З незаўважных гадзін... .................................... 151

* * * Я ведаю, што ты побач... ..................................... 152
* * * Свет з пустога вакна... ............................................ 153
* * * Спазненняў у каханні не бывае... ...................... 154
* * * Адагрэй мае рукі подыхам... ............................... 155
* * * Пачынаецца неба з позірку... ............................. 156
* * * Шэптам стомленых маразоў... .............................. 156
* * * Ты як хочаш, а я... ..................................................... 157
* * * Я ўскочыў у самы апошні вагон... ........................ 158
* * * Горад не пазнаў мяне сягоння... ............................ 159
* * * Ты мяне пазнаеш па позірку... ............................ 160
* * * Ноч, як абыякавасць чужая... ............................... 160
* * * Каму аддаць сваю пяшчоту... ................................ 161
* * * Не дазваляць сабой валодаць... ............................ 161
* * * Сустрэчы, расстанні, сустрэчы... ........................ 162
* * * Неба моўчкі міргала зорамі... .............................. 162
* * * Шчасце з налётам стомы... ..................................... 163
* * * Я не ўпэўнены у тым, што ты была... .................. 163
* * * Я забіраю сябе ў цябе... ........................................ 164
* * * Ты мяне не будзеш шукаць... ................................ 165
* * * Словаў непачутых сляды... ..................................... 165
* * * Мы абрастаем падрабязным... ............................. 166
* * * Сядзеў, чакаў каля вакна... ...................................... 166
* * * Жыццё складаецца з памылак... ........................... 167
* * * Гады ідуць то бачна, то ўпотай... ........................... 167
* * * Гэты вечар да раніцы не дажыве... ...................... 168
* * * Я не жадаю болей лета бачыць... ........................ 168
* * * Скажыце мне праўду... ............................................ 169
* * * Вецер з неба, з мора хмара... ................................. 169
* * * Было і так, што ты мяне чакала... ........................ 170
* * * Вось і скончылася зіма... ......................................... 170
* * * Калі вецер заснуў у сцямнелых нябёсах... ......... 171

## НАВОШТА БЫЛО МІНУЛАЕ

**І забаўляе душу галава...**

Навошта было мінулае............................................................ 172
Не любіў я ніколі дарогу .......................................................... 173
Мой шлях, вядзі мяне, вядзі.................................................... 174

Я доўга глядзеў на ваду ........ 174
Белы край ........ 176
Хада ........ 177
Навакольныя людцы ........ 178
Цішыня ........ 179
Час ........ 179
Край мой ........ 180
Як ведаць ........ 181
Маё сэрца ........ 182
Халодны цень ........ 182
Мама ........ 183
Снег ........ 184
Часам ........ 185
* * * Дажыць да шчасця… ........ 186
Адкахаць ........ 187
Недасяжнасць ........ 188
Ліпеньская ноч ........ 189
Ужо ........ 190
Я не паспеў? ........ 191
Восень ........ 192
Ранкам ........ 193
Як дзень… ........ 193
Ты дзеліш не са мною далячынь… ........ 194
Дзень чакаў ........ 195
Толькі песні ........ 196
Сон ........ 196
Верашчака ........ 197
Каралева ........ 198
Водар ........ 198
Шукай мяне ........ 199

**Забірай маё лета**

* * * Я ведаю, што там, дзе заўтра будзе дзень… ...... 200
* * * Якою дарогай патрапіць у рай… ........ 201
* * * Далёка-далёка дзіцячыя сны… ........ 202
* * * Чые далоні затрымаюць вецер?… ........ 202
* * * Цёмна-шэрая ноч па халоднай зямлі… ........ 203

* * * Ліст залаты... 204
* * * Зімовы вечар апускае мне на плечы... 205
* * * Шэрым днём мінула восень... 205
* * * Лагодным ліпеньскім дажджом... 206
* * * Раніца, смак пацалунка... 206
На матыў «Прощание славянки» В. Агапкіна 207
* * * Я жыву па-за словамі... 208
* * * Спякота зверху, спякота знізу... 209
* * * На вуліцы быў панядзелак... 210
* * * Хацелася слову парушыць маўчанне... 211
* * * Я стаміўся з табой сябраваць... 212
* * * Я паўсюль шукаў нагоды... 212
* * * Ты пафарбавала маё неба... 213
* * * У маім неналаджаным побыце... 213
* * * Цішыня бяздоннай вышыні... 214
* * * Як разумееш ты, што я хачу сказаць... 215
* * * Не пройдзе шлях Ваш там, дзе зараз я... 215
Галава на плячы 216
* * * Фарбуюць вочы ночы цішыню... 216
Паводле «Los Bilbilicos» Psalteria 217
* * * Я казаў табе тысячу слоў... 217
* * * Кульгавая мара складае гадзіны... 218
Паводле «А напоследок я скажу» Б. Ахмадулінай 219
* * * У цішы старой дубровы я сустрэўся... 220
* * * Там, дзе калісьці было каханне... 221
* * * Жыццё нам дорыць байкі з казкамі... 222
* * * Было не так учора на зямлі... 223
Паводле «Тёмная ночь» В. Агатава 224
* * * Казалі нам з усіх бакоў... 224
* * * На крок мы наблізілі неба... 226
* * * Нам зорак не відно за сівізною хмараў... 227
Проглас да Евангелля
*Канстанцін Прэслаўскі (IX–X стст.)* 228

## 2017

### Новыя вершы

* * * Ў абдоймы цішыні вятры не залятаюць… ........ 232
* * * Блукаем да часу між пеклам і раем… ................ 233
* * * Давай будзем думаць пра гэтае заўтра… ........... 234
* * * Час ішоў, магчымасці знікалі… .......................... 234
* * * Адной рукой кіруючы няспынна… .................... 235
* * * Усё галоўнае прыходзіць нечакана… ................ 236
* * * Усё галоўнае прыходзіць нечакана… ................ 237
* * * Калі б не пачыналася зіма… .............................. 237
* * * Псуюць жыццё бясконцыя прыкметы… ........... 238
* * * Пра дзень, які так хочацца забыць… ................. 239
* * * Празрыстыя людзі паўсюдна шчыруюць… ...... 240
* * * Межам стылю акрэсліцца… ............................... 240
* * * Ад імгненняў да вечнасці… ............................... 241

На апошняй старонцы вокладкі
змешчаны фотаздымак Алеся Камоцкага,
зроблены Артурам Прупасам.

12+

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
«Кнігарня пісьменніка»

Выпуск 103

**Камоцкі** Алесь

**НЕ ЯК ТАК**

*Выбранае*

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактар *А. Пашкевіч*
Вёрстка *С. Кандраценкі*
Карэктар *В. Іваноў*

Падпісана да друку 20.02.2018. Фармат 80×100 1/32.
Папера афсетная. Рызаграфія. Ум. друк. арк. 9,26.
Ул.-выд. арк. 7,25. Наклад 300 ас. Зак. 79.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ЗАТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/182 ад 15.02.2016.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.